*Пралетары ўсіх краёў, злучайцеся!*

Цэнтральны Камітэт Камуністычнай партыі (бальшавікоў) Беларусі



# БЮЛЕТЭНЬ
## ЦЭНТРАЛЬНАЙ ПАСЕЎНАЙ КАМІСІІ

№ 3 7 САКАВІКА № 3



МЕНСК 1933

Пралетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# БЮЛЕТЭНЬ

Цэнтральнай Пасеўнай Камісіі

— № 3 —
7 сакавіка
1933 г.

## АД РЭДАКЦЫІ

Да пачатку сяўбы ў БССР засталося якіх-небудзь 4-5 дэкад. Між тым, тэмпы падрыхтоўкі да сяўбы выклікаюць вялікую трывогу. Рамонт трактараў ідзе паўзучымі тэмпамі. Засыпка насеньня яшчэ ня скончылася, а па ільнанасеньню стаіць пад пагрозай зрыву. Па бальшавіцку за рэалізацыю дэкрэту ЦК і СНК аб падрыхтоўцы рабочай жывёлы да вясны ў большасьці раёнаў ня прыступілі. **Цэлы рад раёнаў ня ўлічыў ні вурокаў загатовак, ні рашэньняў Студзеньскага Пленуму ЦК і гістарычнай прамовы т. Сталіна.** Яны па ранейшаму робяць стаўку на апартуністычны самацёк. Пастанова ЦК і СНК БССР „Аб раёнах, ганебна адстаючых у падрыхтоўцы да сяўбы“—павінна ўзварушыць гэтыя, як і рад іншых раёнаў.

Калі мы гаворым аб апартуністычным самацёку, асобна трэба падкрэсьліць пытаньне аб **аднаасобным сэктары**. Абсьледваньне, зробленае на днях па Магілеўскім, Бабруйскім і Шклоўскім раёнах, гаворыць аб тым, што раённыя і вясковыя арганізацыі апартуністычна недаацэньваюць пытаньне аб **арганізацыі** справы падрыхтоўкі аднаасобнікаў-беднякоў і серадпякоў да сяўбы. Ва многіх сельсаветах не сабраны страхавыя фонды, ня прыняты меры супроць тых, што адмаўляюцца ад пасеўных абавязацельстваў; няма кантролю над насенфондамі, не арганізуецца рамонт інвэнтару аднаасобнікаў і г. д. А там, дзе самацёк, там асабліва арудуе клясавы вораг.

На ўсім фронце падрыхтоўкі да сяўбы асабліва паграждаючым зьяўляецца становішча ў **прыгарадных гаспадарках**. Ні самі каапгасы, ні прафсаюзы, ні прамысловыя партарганізацыі ня ўлічылі ганебных вурокаў мінулага году.

Неадкладна і рашуча ўзяцца за ліквідацыю прарываў у прыгарадных гаспадарках, узяцца за вывазку ўгнаеньняў, за рамонт, падрыхтоўку парніковых рам, камплектаваньне рабочай сілы і г. д.— баявая задача партыйных і прафсаюзных арганізацый.

Пара пакласьці канец славесным дэклярацыям і разважаньням аб барацьбе за ўласную харчовую базу і ўзяцца **практычна** за пытаньне падрыхтоўкі да сяўбы ў прыгарадных гаспадарках.

**Рамонт трактараў і прычапнога інвэнтару** па-ранейшаму стаіць у цэнтры ўвагі. Што зьяўляецца галоўным у гэтай справе? З аднаго боку—своечасовае прыгатаўленьне запчастак, хуткая іх пагрузка і дастаўка ў месцы рамонту. раней за ўсё ў МТМ. З другога боку, трэба навесьці парадак у саміх МТМ, МТС і саўгасах—трэба неадкладна ачысьціць майстэрні ад шкодніцкіх, клясава-чуждых элемэнтаў, стварыць выразны графік работы, ліквідаваць абязьлічку ў рабоце брыгад, якія рамантуюць трактар, улічыць наяўныя запчасткі і г. д.

**15 сакавіка** рамонт трактараў павінен быць скончан. Партыя нікому не дазволіць зрываць тэрміны рамонту—гэта павінен ясна ўсьвядоміць кожны дырэктар і сакратар ячэйкі заводу, МТМ, МТС, саўгасу, кожны РК, РВК, РКК, кожны камуніст.

**Якасьць насеньня**—важнейшы момант барацьбы за высокі ўраджай. Збожжаачыстка, спэцыяльная праверка чыстаты, усхожасьці насеньня, сухое пратручваньне пшаніцы і мокрае пратручваньне іншага насеньня—вакол усіх гэтых пытаньняў павінна быць мабілізавана ўвага найшырэйшых мас. **Кожны** дзень змагацца за павышэньне якасьці насеньня!

**Арганізацыя** працы ў калгасах—важнейшае зьвяно ў справе забесьпячэньня посьпеху калгаснай сяўбы. **Правільная ацэнка працадзён, правільна скласьці дзенныя нормы выпрацоўкі** вырашаюць

сваю чаргу посьпех арганізацыі працы. Вось чаму неабходна зараз-жа ўзяцца за абгаварэньне ў калгасах апублікаваных у друку пастаноў Наркамзему „Аб ацэнцы ў працаднёх розных с.-г. работ у калгасах“ і „Аб прыкладных нормах выпрацоўкі на 1933 год“. Правільнае ўжываньне гэтых дырэктыў павінна ўмацаваць калгасную дысцыпліну і стварыць неабходныя ўмовы для рэзкага павышэньня прадукцыйнасьці калгаснай працы.

Гэтыя рашэньні павінны заняць сваё ганаровае месца на парадку дня раённых зьлётаў калгасьнікаў-ударнікаў.

# Пра абавязковую пастаўку збожжа дзяржаве калгасамі і аднаасобнымі гаспадаркамі

## *ПАСТАНОВА САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ БССР і ЦК КП(б)Б*

У адпаведнасьці з пастановай СНК СССР і ЦК УсеКП(б) за 19 студзеня 1933 г. „Пра абавязковую пастаўку збожжа дзяржаве калгасамі і аднаасобнымі гаспадаркамі“ (З. З. СССР 1933 г., № 4, арт. 25) і пастановай Савету Працы і Абароны за 27 студзеня 1933 году „Пра нормы здачы дзяржаве збожжа ўраджаю 1933 году па асобных культурах“ (З. З. СССР 1933 г., № 5, арт. 35), Савет Народных Камісараў БССР і Цэнтральны Камітэт КП(б)Б пастанаўляюць:

1. Скасаваць існуючую дагаворную (кантрактацыйную) сыстэму загатовак збожжавых культур і ўстанавіць для калгасаў і аднаасобных гаспадарак, маючыя сілу падатку цьвёрдыя абавязацельствы па здачы збожжа дзяржаве па ўстаноўленых дзяржаўных цэнах.

2. Устанавіць наступныя, зацьверджаныя пастановай СНК СССР ад 21 лютага 1933 г. № 263 параённыя сярэднія па ўсіх збожжавых культурах і па асобных збожжавых культурах нормы здачы калгасамі збожжа дзяржаве з ураджаю 1933 году, з разьліку на кожны гэктар устаноўленага пляну пасеву яравых і на кожны гэктар фактычнага пасеву азімых збожжавых культур (у кгр.):

а) **Для калгасаў, якія не абслугоўваюцца МТС**

| РАЁНЫ | Жыта | Пшаніца | Авёс | Ячмень | Бабовыя | Крупяныя | Інш. збожжавыя культуры | Сярэдняя норма па ўсіх збожжавых культурах |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 група<br>1. Аршанскі<br>2. Брагінскі<br>3. Віцебскі<br>4. Гомельскі<br>5. Заслаўскі<br>6. Капыльскі<br>7. Дзяржынскі<br>8. Лёзьнянскі<br>9. Магілеўскі<br>10. Менскі<br>11. Мсьціслаўскі<br>12. Сененскі<br>13. Слуцкі<br>14. Тураўскі<br>15. Чавускі<br>16. Чырвона-Слабодзкі<br>17. Шклоўскі | 85 | 70 | 115 | 115 | 55 | 65 | 65 | 94 |

| Раёны | Жыта | Пшаніца | Авёс | Ячмень | Бабовыя | Крупяныя | Інш. збожжавыя культуры | Сярэдняя норма па ўсіх збожжавых культурах |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| **2 група** | | | | | | | | |
| 18. Бабруйскі | | | | | | | | |
| 19. Барысаўскі | | | | | | | | |
| 20. Буда-Кашалёўскі | | | | | | | | |
| 21. Бешанковіцкі | | | | | | | | |
| 22. Быхаўскі | | | | | | | | |
| 23. Бялыніцкі | | | | | | | | |
| 24. Вузьдзенскі | | | | | | | | |
| 25. Гарадоцкі | | | | | | | | |
| 26. Горацкі | | | | | | | | |
| 27. Дрысенскі | | | | | | | | |
| 28. Дубровенскі | | | | | | | | |
| 29. Касьцюковіцкі | | | | | | | | |
| 30. Клімавіцкі | | | | | | | | |
| 31. Клічаўскі | 75 | 65 | 110 | 110 | 50 | 60 | 60 | 85 |
| 32. Крычаўскі | | | | | | | | |
| 33. Лагойскі | | | | | | | | |
| 34. Лепельскі | | | | | | | | |
| 35. Полацкі | | | | | | | | |
| 36. Пухавіцкі | | | | | | | | |
| 37. Рэчыцкі | | | | | | | | |
| 38. Рагачоўскі | | | | | | | | |
| 39. Расонскі | | | | | | | | |
| 40. Сіроцінскі | | | | | | | | |
| 41. Смалявіцкі | | | | | | | | |
| 42. Талачынскі | | | | | | | | |
| 43. Вушацкі | | | | | | | | |
| 44. Уваравіцкі | | | | | | | | |
| 45. Хойніцкі | | | | | | | | |
| 46. Чэрвеньскі | | | | | | | | |
| 47. Чэрыкаўскі | | | | | | | | |
| **3 група** | | | | | | | | |
| 48. Асьвейскі | | | | | | | | |
| 49. Асіповіцкі | | | | | | | | |
| 50. Бярэзінскі | | | | | | | | |
| 51. Веткаўскі | | | | | | | | |
| 52. Глускі | | | | | | | | |
| 53. Ельскі | | | | | | | | |
| 54. Жлобінскі | | | | | | | | |
| 55. Камарынскі | 70 | 60 | 105 | 105 | 45 | 45 | 45 | 76 |
| 56. Кармянскі | | | | | | | | |
| 57. Крупскі | | | | | | | | |
| 58. Лоеўскі | | | | | | | | |
| 59. Мазырскі | | | | | | | | |
| 60. Парыцкі | | | | | | | | |
| 61. Пятрыкоўскі | | | | | | | | |
| 62. Прапойскі | | | | | | | | |
| 63. Старобінскі | | | | | | | | |
| 64. Тураўскі | | | | | | | | |
| 65. Церахаўскі | | | | | | | | |

| Раёны | Жыта | Пшаніца | Авёс | Ячмень | Бабовыя | Крупяныя | Інш. збожжавыя культуры | Сярэдняя норма па ўсіх збожжавых культурах |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 66. Чачэрскі | | | | | | | | |
| 67. Чашніцкі | 70 | 60 | 105 | 105 | 45 | 45 | 45 | 76 |
| 68. Чырвонапольскі | | | | | | | | |
| **4 група** | | | | | | | | |
| 69. Бягомльскі | | | | | | | | |
| 70. Жыткавіцкі | | | | | | | | |
| 71. Лельчыцкі | | | | | | | | |
| 72. Нараўлянскі | 65 | 55 | 100 | 100 | 40 | 40 | 40 | 70 |
| 73. Любаньскі | | | | | | | | |
| 74. Плешчаніцкі | | | | | | | | |
| 75. Стара-Дароскі | | | | | | | | |
| **б) Для калгасаў, якія абслугоўваюцца МТС.** | | | | | | | | |
| Для 1 групы раёнаў | 60 | 60 | 85 | 85 | 45 | 60 | 60 | 70 |
| Для 2 групы раёнаў | 55 | 55 | 80 | 80 | 40 | 50 | 50 | 65 |
| Для 3 групы раёнаў | 50 | 50 | 75 | 75 | 35 | 45 | 45 | 60 |
| Для 4 групы раёнаў | 45 | 45 | 70 | 70 | 30 | 40 | 40 | 52 |

Устаноўленыя ў гэтым артыкуле параённыя нормы здачы па асобных збожжавых культурах і сярэднія па ўсіх збожжавых культурах зьяўляюцца абавязковымі для ўсіх калгасаў данага раёну і ня могуць быць зьменсны.

3. Колькасьць збожжа, якая павінна быць здана дзяржаве кожным калгасам вызначаецца раённымі выканаўчымі камітэтамі на дакладнай падставе арт. 2 гэтай пастановы.

4. Устанавіць наступныя сярэднія для БССР каляндарныя тэрміны выкананьня калгасамі гадавых абавязацельстваў па здачы збожжа дзяржаве ў процантах ад пагэктарных норм, устаноўленых арт 2 гэтай пастановы:

у жніўні месяцы 10 проц.
у верасьні . . . 30 проц.
у кастрычніку . 35 проц.
у лістападзе . . 25 проц.

Устанавіць для паасобных зон наступныя цьвёрдыя тэрміны здачы збожжа ў процантах:

| | Жнівень | Верасень | Кастрычнік | Лістапад |
|---|---|---|---|---|
| Для паўднёвых раёнаў . . . . | 15 | 35 | 40 | 10 |
| „ цэнтральных раёнаў . . . | 12 | 35 | 45 | 8 |
| „ паўночных раёнаў . . . | 5 | 30 | 55 | 10 |

Прапанаваць Упаўнаважанаму Камітэту Загатовак і НК Земляробства не пазьней як праз 2 дні апублікаваць сьпіс раёнаў па вышэйуказаных 3-х зонах.

5. Парадак вызначэньня разьмераў здачы збожжа дзяржаве калгасамі, устаноўлены гэтай пастановай, не пашыраецца на аднаасобныя гаспадаркі. Для аднаасобных гаспадарак захоўваецца існуючы цяпер парадак вызначэньня разьмераў збожжаздачы, а іменна: сельскія саветы ўстанаўляюць для кожнай аднаасобнай гаспадаркі цьвёрдыя абавязацельствы па здачы збожжа дзяржаве, выходзячы з фактычна засеянай плошчы азімых і цьвёрдага пляну сяўбы яравых збожжавых культур, устаноўленага сельскім саветам для кожнай аднаасобнай гаспадаркі, а таксама выходзячы з таго, каб здача з га аднаасобнымі гаспадаркамі была на 5—10 проц. вышэй норм, устаноўленых для калгасаў данага раёну як па асобных збож-

жавых культурах, так і сярэднія па ўсіх збожжавых культурах.

6. Для аднаасобных гаспадарак устанавіць гранічны тэрмін поўнага выкананьня ўстаноўленых для іх гадавых плянаў збожжаздачы — 1 лістапада 1933 г.

Тэрміны здачы збожжа па асобных зонах устанавіць:

| | Жнівень | Верасень | Кастрычнік |
|---|---|---|---|
| Для раёнаў паўднёвай зоны | 25 | 60 | 15 |
| " " цэнтральнай зоны | 20 | 70 | 10 |
| " " паўночнай зоны | 15 | 70 | 15 |

7. Захаваць існуючыя цэны на збожжа, якое здаецца дзяржаве.

8. Абавязаць раённыя выканаўчыя камітэты не пазьней 15 сакавіка 1933 г. уручыць кожнаму калгасу абавязацельствы па здачы збожжа па культурах з указаньнем тэрмінаў яго выкананьня.

Да гэтага-ж тэрміну ўручыць кожнай аднаасобнай гаспадарцы абавязацельствы па здачы збожжа дзяржаве з указаньнем разьмераў здачы па кожнай культуры паасобку, а таксама тэрмінаў выкананьня ўсяго заданьня.

9. Пры здачы збожжа дзяржаве калгасамі і аднаасобнымі гаспадаркамі дапускаецца замена аднэй культуры другой (проса замест грэчкі і наадварот).

Не дапускаецца толькі замена харчовых культур—пшаніцы і жыта фуражнымі і крупянымі, а таксама не дазваляецца замена пшаніцы ніякай іншай культурай.

10. Калгасы і аднаасобныя гаспадаркі павінны падвезьці і здаць на элеватары або прыстанцыйныя і прыстаньскія склады Заготзбожжа тую колькасьць збожжа, якая належыць з іх, а загатоўчыя органы павінны захаваць існуючую практыку разьлікаў са здатчыкам збожжа з улікам дальнасьці падвозу.

11. У залік выкананьня калгасамі і аднаасобнымі гаспадаркамі сваіх абавязацельстваў, устаноўленых гэтай пастановай па здачы збожжа дзяржаве, прымаецца толькі збожжа добраякаснае.

Тухлае і прарошчае збожжа не залічваецца ў выкананьне абавязацельстваў калгасаў і аднаасобных гаспадарак.

Засьмечанае і сырое збожжа залічваецца ў выкананьне абавязельстваў са скідкай на засьмечанасьць і вільготнасьць па стаўках, устаноўленых Камітэтам Загатовак пры СНК СССР.

Абавязаць загадчыкаў элеватарамі і ссыпнымі пунктамі прыцягваць да судовай адказнасьці асоб, вінаватых у спробе здаць дзяржаве збожжа яўна нядобраякаснае або сапсаванае збожжа.

12. Для снабжэньня хлебам па цьвёрдых дзяржаўных цэнах сельскіх настаўнікаў, аграномаў і мэдработнікаў устанавіць абавязковае налічэньне ў разьмеры 2 проц. ад норм, вызначаных гэтай пастановай.

Збожжа ў лік гэтых налічэньняў здаецца калгасамі і аднаасобнымі гаспадаркамі адначасова з выкананьнем імі сваіх абавязацельстваў па здачы збожжа, паступае на склады Заготзбожжа і расходуецца па распараджэньні раённых выканаўчых камітэтаў на аснове ўказаньняў СНК БССР выключна для снабжэньня настаўнікаў, аграномаў і мэдработнікаў.

13. Выкананьне ўстаноўленых гэтай пастановай абавязацельстваў па здачы збожжа дзяржаве зьяўляецца першачарговым абавязкам кожнага калгасу і аднаасобнай гаспадаркі і павінна быць зроблена з першых абмалотаў. Устанавіць, што калгасны гандаль збожжам будзе дазваляцца толькі пасьля выкананьня ўстаноўленага на аснове гэтай пастановы пляну збожжазагатовак у цэлым па рэспубліцы і поўнай ссыпкі, пасьля выкананьня пляну збожжазагатовак, насенных фондаў.

14. Калгасы, якія ня выканалі сваіх абавязацельстваў па здачы збожжа дзяржаве ва ўстаноўленыя гэтай пастановай каляндарныя тэрміны, штрафуюцца праз сельскія саветы грашыма ў разьмеры рыначнага кошту нявыкананай часткі абавязацельства і апрача гэтага да гэтых калгасаў прад'яўляюцца патрабаваньні аб датэрміновым выкананьні ўсяго гадавога абавязацельства, якое павінна быць спагнана ў бясспрэчным парадку.

Аднаасобныя гаспадаркі, якія ня выканалі сваіх абавязацельстваў па здачы збожжа дзяржаве да ўстаноўленага гэтай пастановай тэрміну, прыцягваюцца да судовай адказнасьці паводле арт. 94 Крымінальнага Кодэксу БССР.

15. Бязумоўна забараняецца мясцовым органам улады і загатоўчым органам допускаць сустрэчныя пляны або накладаць на калгасы і аднаасобныя гаспадаркі абавязацельствы па здачы збожжа, якія перавышаюць пагэктарныя нормы, устаноўленыя гэтым законам. Усе лішкі збожжа пасьля выкананьня абавязацельстваў па здачы дзяржаве збожжа застаюцца ў поўным распараджэньні саміх калгасаў, калгасьнікаў і аднаасобнікаў.

Старшыня Савету Народных Камісараў БССР **М. Галадзед**

Сакратар ЦК КП(б)Б **М. Гікало**

# Аб пляне пасеваў яравых збожжавых культур у калгасах, якія абслугоўваюцца МТС на 1933 г.

## Пастанова Савету Народных Камісараў Саюзу ССР

Савет Народных Камісараў Саюзу ССР, пастанаўляе: зацьвердзіць наступны, прадстаўлены Наркамземам Саюзу ССР, плян пасеваў яравых збожжавых культур у калгасах, якія абслугоўваюцца МТС, па 1933 г. (у тыс. га).

| Рэспублікі, краі і вобласьці | Усяго яравых пасеваў | Ярав. збожж. культ. | У тым ліку | | | Кукуруза і сарго |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Пшаніца | Авёс | Ячмень | |
| Паўночны край | 55 | 31,0 | 8,0 | 19,0 | 7,0 | — |
| Карэльская АССР | 4 | 2,5 | — | 2,0 | 0,2 | — |
| Ленінградзкая вобласьць | 309 | 134,0 | 5,0 | 80,0 | 28,0 | — |
| Заходняя вобласьць | 560 | 211,0 | 6,0 | 140,0 | 19,0 | — |
| Маскоўская „ | 622 | 287,0 | 4,0 | 212,0 | 10,0 | — |
| Іванаўская „ | 360 | 155,0 | 11,0 | 105,0 | 15,0 | — |
| Горкаўскі край | 500 | 322,0 | 23,0 | 215,0 | 38,0 | — |
| ЦЧВ | 3050 | 1795,0 | 261,0 | 658,0 | 112,0 | 19 |
| Уральская вобл. | 2250 | 1863,0 | 965,0 | 492,0 | 140,0 | 1 |
| Башкірская АССР | 728 | 619,0 | 320,0 | 180,0 | 4,0 | 0,8 |
| Татарская АССР | 700 | 565,0 | 153,0 | 210,0 | 9,0 | — |
| Сярэдне-Волскі край | 3409 | 2575,0 | 1490,0 | 478,0 | 40,0 | 18 |
| Ніжне-Волскі край | 5463 | 2795,0 | 2060,0 | 242,0 | 74,0 | 63 |
| Паўночна-Каўкаскі край | 5300 | 3290,0 | 1380,0 | 210,0 | 605,0 | 926 |
| Крымская АССР | 270 | 192,9 | — | 34,0 | 101,0 | 54 |
| Казакская АССР | 1586 | 1216,0 | 845,0 | 89,0 | 39,0 | 11 |
| Кара-Калпацкая АССР | 42 | 6,0 | 1,0 | — | — | 4 |
| Заходне-Сібірскі край | 2791 | 2493,0 | 1908,0 | 434,0 | 27,0 | — |
| Усходне-Сібірскі край | 582 | 521,0 | 230,0 | 158,0 | 41,0 | — |
| Якуцкая АССР | 12 | 11,0 | 4,0 | 2,6 | 1,4 | — |
| Далёка-Ўсходні край | 400 | 330,0 | 181,0 | 114,0 | 9,0 | 1,5 |
| УССР | 8479 | 5019,0 | 791,0 | 809,0 | 1815,0 | 743 |
| БССР | 500 | 240,0 | 16,0 | 116,0 | 58,0 | — |
| ЗСФСР | 408 | 167,0 | 24,0 | 3,0 | 24,0 | 90 |
| Узбэкская ССР | | 360,0 | 243,0 | | 53,0 | 18 |
| Таджыкская ССР | 1708 | 115,0 | 68,0 | — | 36,0 | 9 |
| Туркмэнская ССР | | 43,0 | 25,0 | | 9,0 | 7 |
| Кіргіская АССР | 400 | 300,0 | 197,0 | 32,0 | 45,0 | 13,0 |
| Усяго па СССР | 38488 | 25657,5 | 11214,0 | 5034,6 | 3359,6 | 1978,3 |

Старшыня Савету Народных Камісараў Саюзу ССР
В. МОЛАТАЎ (Скрабін)

Нам. Кіраўніка спраў Савету Народных Камісараў
Саюзу ССР І. МІРОШНІКАЎ

# Аб ацэнцы ў працаднёх розных сельскагаспадарчых работ у калгасах

## Пастанова Народнага Камісарыяту Землябробства Саюзу ССР

1. Цэнтральны Выканаўчы Камітэт Саюзу ССР у пастанове ад 30 студзеня 1933 году „Аб умацаваньні калгасаў“ пастанавіў даручыць Наркамзему СССР „устанавіць прыкладную ацэнку ў працаднёх розных сельска-гаспадарчых работ, прадугледзіўшы павышэньне расцэнак працы на складаных уборачных машынах, аратых, сейбітаў, цяжкай і кваліфікаванай ручной працы на ўборцы і міжрадковай апрацоўцы“.

У выкананьне гэтай пастановы Наркамзем СССР прапануе ўсім зямельным органам і праўленьням калгасаў устанавіць расцэнкі ўсіх работ у сваім калгасе і разьбіўку работ па групах, кіруючыся ўстаноўленай Наркамземам СССР прыкладнай разьбіўкай па групах, але абавязкова з улікам асаблівасьцяй данага калгасу (стан глебы, цягла, прыладаў, асаблівай важнасьці асобных работ, кваліфікаваных работнікаў і г. д.).

Усе работы разьбіваюцца на 7 груп, прычым па работах, аднесеных да 7-й групы, калгасьнікаў, выканаўшаму ўстаноўленую праўленьнем калгасу дзённую норму выпрацоўкі, налічваецца 2 працадні; па работах, аднесенных да 6-й групы, калгасьніку, выканаўшаму дзённую норму выпрацоўкі, налічваецца 1,75 працадня; па работах аднесеных да 5-й групы, калгасьніку, выканаўшаму дзенную норму выпрацоўкі, налічваецца 25 працадня; па работах аднесеных да 4-й групы, калгасьніку, выканаўшаму дзённую норму выпрацоўкі, налічваецца 1,25 працадня, па работах, аднесеных да 3-й групы, калгасьніку, выканаўшаму дзённую норму выпрацоўкі, налічваецца 1 працадзень; па работах, аднесеных да 2-й групы, калгасьніку, выканаўшаму дзенную норму выпрацоўкі, налічваецца 0,75 працадня і па работах, аднесеных да 1-й групы, калгасьніку, выканаўшаму дзенную норму выпрацоўкі, налічваецца 0,5 працадня.

Да 7-й групы адносяцца: старшы трактарыст камбайнэр, машыніст на снопавязалцы, машыніст на ільнацерабілцы, машыніст на турман-вакуме, машыніст на буракакапальніку, машыніст на складанай малатарні, трактарыст першай катэгорыі па кваліфікацыі і стажы, сейбіт па звышраньняй сяўбе і старшыня вялікага калгасу.

Да 6-й групы адносяцца: трактарыст другой катэгорыі па кваліфікацыі і стажы, араты па зябліве, касец збожжа касой і сярпом, скідальшчык на лобагрэйцы, сьціртапраў, машыніст на коннай малатарні, падавальшчык снапоў на складанай малатарні (барабаншчык), капальшчык буракоў уручную, пракопшчык буракоў, работнік на ломцы і нізцы тытуну, палівальшчык бавоўны, трапальшчык ільну, старшыня невялікага калгасу і бухгальтар, які мае спэцыяльную асьвету.

Да 5-й групы адносяцца: араты, сейбіт, вязальшчык снапоў, падавальшчык снапоў на коннай малатарні (барабаншчык), вагаўшчык пры малатарні, ручны церабільшчык ільну, мяльшчык ільну ўручную, работнік па міжрадковай апрацоўцы тэхнічных культур і кукурузы (акрамя пракопкі буракоў), ручны зборшчык бавоўны, кваліфікаваны рахункавод, працуючы звыш году, загадчык жывёлагадоўчай фэрмай, працуючы звыш году, і брыгадзір, працуючы звыш году.

Да 4-й групы адносяцца: возчык збожжа і насеньня ў сэзон палявых работ; работнік па расьцілу і пад'ёму ільну, работнік на міжрадковай апрацоўцы гародніх і іншых культур, капальшчык бульбы, рахункавод, працуючы першы год, брыгадзір, працуючы першы год, загадчык жывёлагадоўчай фэрмы, працуючы першы год, старшы конюх і конюх, працуючы звыш году, старшы пастух, старшы сьвінар, старшы чабан.

Да 3-й групы адносяцца: работнік на астатніх палявых работах, возчык у сэзон палявых работ астатніх грузаў, не пералічаных у 4-й групе, і возчык у зімовы час, зборшчык гародніны і пладоў, вартавы па ахове збожжа і пасеваў, конюх, працуючы першы год, старшая птушніца, старшая даярка

і даярка, працуючая другі год, чабан, сьвінар, пастух.

Да 2-й групы адносяцца: даярка, працуючая першы год, птушніца, скотнік і брыгадны кухар.

Да 1-й групы адносяцца: работнік на другіх унутрыгаспадарчых пастаянных некваліфікаваных работах, вартавы ўнутры гаспадаркі, уборшчыца і расcыльны.

2. Пры разьбіўцы работнікаў па групах і ўстанаўленьні расцэнкі розных работ праўленьне калгасу павінны выходзіць з таго, каб агульнае павышэньне ліку працадзён, якія прыпадаюць на гаспадарку, супроць цяперашняга году, не перавышала 20 проц. і павышэньне расцэнак асноўных палаводных работ у пэўнай меры пакрывалася зьніжэньнем расцэнак другарадных работ, асабліва непалявых, і скарачэньнем расходу на адміністрацыйна-гаспадарчыя патрэбы.

3. Конюхам, пастухом, чабанам і іншым, працуючым у жывёлагадоўлі, налічэньне працадзён праводзіцца ў канцы кожнага месяца, прычым, у залежнасьці ад стану жывёлы, ім робіцца скідка або накідка да выпрацаванага ліку працадзён у межах да 20 проц. Работнікам у жывёлагадоўлі, у якіх даручаная ім жывёла будзе ў дрэнным стане, працадні не налічваюцца.

4. У калгасах, дзе жывёлагадоўчая гаспадарка зьяўляецца асноўным і галоўным, работнікі на жывёлагадоўлі пераносяцца на адзін разрад вышэй.

5. З прычыны таго, што ў мінулым годзе мела месца ва многіх выпадках налічэньне працуючым калгасьнікам працадзён без залежнасьці ад якасьці работы, Наркамзем СССР прапануе праўленьням калгасаў устанавіць наступны парадак прыёмкі работ:

а) па меры сканчэньня работы як групай калгасьнікаў, так і асобнымі калгасьнікамі работу прымае брыгадзір;

б) забараніць брыгадзірам прымаць і налічваць працадні за работу, праведзеную нядобраякасна (ворыва з агрэхамі, пакіданьне пустазельля пры прапалцы, няпоўны абмалот, страты пры ўборцы, дрэнная касьба і г. д.);

в) работу брыгады прымаць, па меры яе сканчэньня, старшыні калгасу або яго намесьніку, прычым у выпадку незадаволі здавальняючай работы праўленьне калгасу робіць скідку з агульнага ліку працадзён, выпрацаваных брыгадай, у тым ліку і брыгадзірам, у межах да 10 проц.;

г) пры атрыманьні брыгадай калгасу ўраджаю звыш сярэдняга калгаснага, усім членам брыгады праводзіць налічэньне працадзён у межах да 20 проц. усяго ліку выпрацаваных імі працадзён, за кошт аднačасовага зьніжэньня ў тых-жа размерах (да 20 проц.) брыгадам, даўшым ураджай ніжэй сярэдняга калгаснага.

Народны Камісар Земляробства СССР
**Я. Якаўлеў.**

28 лютага 1933 г.

# Аб прыкладных нормах выпрацоўкі на 1933 г.

## Пастанова Народнага Камісарыяту Земляробства Саюзу ССР

Цэнтральны Выканаўчы Камітэт Саюзу ССР у сваёй пастанове „аб умацаваньні калгасаў" даручыў Наркамзему „устанавіць на важнейшыя сельскагаспадарчыя работы прыкладныя нормы выпрацоўкі, даступныя сярэдняму калгасьніку з тым, каб нормы выпрацоўкі ў кожным калгасе ўстанаўляліся канчаткова праўленьнем калгасу з зацьверджаньнем агульнага сходу калгасьнікаў у суадпаведнасьці з асаблівасьцямі калгасу, становішчам цягла, машын, характарам і т. п.".

1. У выкананьне гэтай пастановы Народны Камісарыят Земляробства Саюзу ССР прапануе ўсім зямельным органам і праўленьням калгасаў пры ўстанаўленьні нормы выпрацоўкі выходзіць з наступных прыкладных норм:

Веснавое ворыва 2 лямешным плугам 1—1,20 га.

2. Веснавое ворыва параконным аднaлямешным плугам 0,6—0,8 га.

3. Баранаваньне двухзьвеннай бараной у адзін сьлед ад 4 да 5 га

4. Сяўба 11 раднай сошніковай сеялкай ад 4 да 5 га

5. Сяўба ручная 2,5—3,0 га.

6. Праполка кукурузы і сланечніка ўручную на 1 га 5—7 ч.

7. Праполка кукурузы і сланэчніка конная на 1 га 3—4 ч.

8. Касьба зярнёвых снапавязалкай і жаткай-самаскідкай ад 4 да 5 га

9. Тое-ж лабагрэйка 4—5—6 га

10. Малацьба малатарняй МК 1.100 ад 900—1200 п.

11. Малацьба малатарняй БДО 034 ад 400 да 600 п.

12. Малацьба малатарняй МО 900 ад 500 да 700 п.

13. Малацьба малатарняй шасьціконнай ад 200 да 300 п.

14. Сяўба бурачнай 6-раднай сеялкай 6 га

15. Матыкаваньне конным плянэтам 1—1,5 га

16. Матыкаваньне коннай матыкай „Украінка“ 4,5—5,5 га

17. Шароўка буракоў 5—6 чал. на 1 га

18. Прарыўка 15—17 ч. на 1 га

19. Праполка ручная 8—10 ч. на 1 га

20. Праверка 9—11 ч. на 1 га.

21. Ручное капаньне, укладка, абрэзка 6—9 цнт. у дзень на 1 чал.

22. Капаньне буракоў лапай „Кашчука“ 0,9—1,1 га

23. Ручное вырываньне 8—13 чал. на 1 га

24. Расьсціл лёну 4—5 на 1 га сьцелішча.

25. Пад'ём трасты, зьвязка ў бабкі з сушкай 0,5—0,6 га на чалавека

26. Расьціль вымачанай саломы на сьцелішча 500—600 снапоў.

27. Мяцьцё трасты трохпарвальнай мялкай 7—10 цнт.

28. Тое-ж шасьціпарвальнай мялкай 20 цнт.

29. Паліўка бавоўны баразновая 0,75—1 га на чал.

30. Паліўка праз затапленьне 2—3 га на чал.

31. Першы збор бавоўны 40—45 кгр.

32. Другі збор бавоўны 25—30 кгр.

33. Трэці збор бавоўны 15—20 кгр.

34. Збор нераскрытых каробачак 50—60 кгр.

35. Ачыстка кусака 15—20 кгр.

2. З прычыны таго, што ў мінулым годзе мела месца ва многіх выпадках мэханічнае ўжываньне калгасамі ўстаноўленых зямельнымі органамі норм выпрацоўкі, Наркамзем СССР указвае праўленьням калгасаў, што сучасныя нормы выпрацоўкі павінны быць устаноўлены ў кожным паасобным выпадку непасрэдна праўленьнем калгасу, пасьля абгаварэньня на агульным сходзе калгасьнікаў, прычым дапускаецца адступленьне ад гэтых норм, у суадпаведнасьці з умовамі калгасу, становішчам жывёлы, глебы, збожжа, машын.

3. Устанавіць, што колькасьць працадзён, якія прылічваюцца адпаведным работнікам у калгасе, у суадпаведнасьці з групай, да якой яны аднесены ім запісваецца толькі пры ўмовах выкананьня норм, пры невыкананьні ўстаноўленых праўленьнем калгасу норм адпаведна зьніжаецца колькасьць належачых калгасьнікам працадзён, пры перавыкананьні норм—тая-ж колькасьць працадзён адпаведна павышаецца.

Народны Камісар Земляробства
Саюзу ССР Я. Якаўлеў.

28 лютага 1933 г.

# Аб умацаваньні калгасаў і саўгасаў, веснавой сяўбе 1933 году і ўздыме ўраджайнасьці

## Пастанова Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту Беларускай ССР

У выніку пасьлядоўнага ажыцьцяўленьня генэральнай лініі партыі, БССР, як і ўвесь Савецкі Саюз, пасьпяхова завяршыўшы першую пяцігодку за чатыры гады, дабілася вялізарных посьпехаў ў галіне сацыялістычнай перабудовы сельскай гаспадаркі:

а) лік саўгасаў узрос з 210 у 1928 годзе да 428 у 1932 годзе;

б) колькасьць бядняцка-серадняцкіх гаспадарак, аб'яднаных у калгасы, з 8409 у 1928 годзе павялічылася да 328.053 у 1932 годзе;

в) калгасы і саўгасы ўжо ў 1932 годзе засеялі больш паловы ўсёй пасеўнай плошчы. На базе росту саўгасаў, калгасаў і тэхнічнай узброенасьці сельскай гаспадаркі, пасеўная плошча ў БССР у 1932 годзе, у параўнаньні з 1928 годам, павялічылася на 533 тыс. га;

г) у выніку пасьпяховага правядзеньня палітыкі ліквідацыі кулацтва як кля-

сы і шпаркага росту індустрыялізацыі склаліся ўмовы для пасьпяховага забесьпячэньня сельскай гаспадаркі трактарамі і навейшымі сельскагаспадарчымі машынамі. Машынаўзброенасьць сельскай гаспадаркі БССР павялічылася за апошнія чатыры гады ў чатыры з лішнім разы. Арганізавана 57 МТС, якія ўжо ў 1932 годзе засеялі звыш 700 тысяч га. Пабудавана 38 заводаў па апрацоўцы ільну і канапель з колькасьцю 43 турбін;

д) утворана моцная база сацыялістычнай жывёлагадоўлі—6.000 калгасных жывёлагадоўчых фэрм і жывёлагадоўчых саўгасаў;

„Кулацтва як кляса разгромлена, але яшчэ не дабіта, працоўнае сялянства вызвалена ад кулацкай кабалы і эксплёатацыі і пад савецкую ўладу падведзена моцная эканамічная база з вёскі, база калектыўнай гаспадаркі". (Сталін).

Гэтыя посьпехі адзначаюць, што БССР, як неадрыўная частка ўсяго Савецкага Саюзу, ператвараецца ў краіну сапраўды сацыялістычнага земляробства і жывёлагадоўлі на аснове росту саўгасаў і калгасаў.

Побач з гэтымі вялізарнейшымі посьпехамі па сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі ў рабоце ёсьць яшчэ цэлы рад буйнейшых недахопаў, у сувязі з чым далёка няпоўна выкарыстоўваюцца тыя вялізарныя перавагі, якія закладзены ў аснове буйнай сацыялістычнай сельскай гаспадаркі.

Галоўнымі недахопамі зьяўляюцца:

а) калгасы і саўгасы яшчэ недастаткова ўмацаваны палітычна і арганізацыйна-гаспадарча. Надзвычайна дрэнна арганізавана вытворчасьць, праца і іх вучот. Яшчэ ня створана новая грамадзкая дысцыпліна ў калгасах;

б) кулак і іншыя антысавецкія элемэнты карыстаючыся стратай рэвалюцыйнай пільнасьці з боку паасобных працаўнікоў у калгасах і саўгасах, а часта і пры простым іх патураньні ўсімі мерамі пралазяць ня толькі ў калгасы і саўгасы, але і ў іх кіруючыя органы: у праўленьні, а таксама ў якасьці рахункаводаў, загадчыкаў гаспадаркі, паляводаў, жывёлаводаў, брыгадзіраў і г. д. Гэтыя антысавецкія элемэнты арганізуюць шкодніцтва, псуюць машыны, жывёлу, раскрадваюць сацыялістычную маемасьць, падрываюць працоўную дысцыпліну і шляхам сабатажу дзяржаўных заданьняў, распальваючы спажывецкія настроі ў адсталай частцы калгасьнікаў, робяць спробы падарваць непераможны рух сацыялістычнага будаўніцтва. Гультай, прагульшчык, раскрадальнік і апартуністы зьяўляюцца простымі памагатымі кулака ў гэтай контррэвалюцыйнай справе;

в) калгасны і саўгасны актыў яшчэ недастаткова арганізаваны і загартаваны ў барацьбе за замацаваньне калгасаў і саўгасаў, як сацыялістычных гаспадарак. Калгасныя і саўгасныя кадры яшчэ не аўладалі тэхнікай і арганізацыяй буйнай сацыялістычнай гаспадаркі, саветы яшчэ не перабудавалі сваю работу ў кірунку канкрэтнага кіраўніцтва саўгасамі і калгасамі;

г) саўгасы і калгасы яшчэ зусім недастаткова змагаюцца за якасьць працы, за ўздым ураджайнасьці палёў і прадукцыйнасьці жывёлагадоўлі, ёсьць шмат выпадкаў безгаспадарчасьці, дрэннага скарыстаньня машын, сродкаў, у зьвязку з чым ураджайнасьць палёў і прадукцыйнасьць жывёлы яшчэ знаходзяцца на вельмі нізкім узроўні;

д) зямельныя органы—Народны Камісарыят Земляробства і яго аб'яднаньні Трактарацэнтр, МТС, райза, саўгастрэсты і саўгасы ня сталі яшчэ сапраўднымі кіраўнікамі і арганізатарамі саўгаснай і калгаснай вытворчасьці.

Апарат Народнага камісарыяту земляробства, Упаўнаважаны Народнага камісарыяту саўгасаў, трактарацэнтраў і іх органаў, на мясцох у значнай меры засьмечаны шкоднікамі і антысавецкімі элемэнтамі.

Зямельныя органы, РВК і сельсаветы не разгарнулі яшчэ, як належыць работу па арганізацыйна-гаспадарчым умацаваньні калгасаў і саўгасаў, за сацыялістычнае перавыхаваньне калгасных мас і рабочых саўгасаў і МТС і не арганізавалі рашучай барацьбы з кулацтвам і кулацкім уплывам у калгасах і саўгасах.

У радзе выпадкаў яны не зразумелі новай абстаноўкі і не ўявілі сабе новай тактыкі клясавага ворага, які дзейнічае „ціхай сапай".

Ня гледзячы на наяўнасьць у радзе раёнаў адкрытага кулацкага-антысавецкага сабатажу, накіраванага на зрыў веснавой сяўбы, які выражаецца ў зры-

ве засыпкі нясеньня, ачысткі яго, рамонту сельска-гаспадарчага інвэнтару, псаваньні машын, конскай цягавай сілы, разбазарваньні фуражных фондаў і інш., —рад РВК, райза, МТС і сельсаветаў не зрабілі належных вывадаў, несвоечасова даводзяць пляны веснавой сяўбы, нездавальняюча разгортваюць масавую працу сярод калгасьнікаў і аднаасобнікаў і не вядуць рашучай бязьлітаснай барацьбы з кулацкімі, антысавецкімі і шкодніцкімі элемэнтамі і іх дапаможнікамі, перараджэнцамі і апартуністамі, у выніку чаго падрыхтоўка да веснавой сяўбы праходзіць нездавальняюча.

Выходзячы з неабходнасьці палітычнага, арганізацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня калгасаў, падвышэньня вытворчасьці працы і прадукцыйнасьці, своечасовай падрыхтоўкі, поўнага выкананьня пляну сяўбы і ўзьняцьця ураджайнасьці.—Цэнтральны выканаўчы камітэт БССР пастанаўляе:

1. Даручыць Наркамзему, Упаўнаркамсаўгасаў і раённым выканаўчым камітэтам ачысьціць зямельныя органы, МТС, саўгасы і іх аб'яднаньні і калгасы ад кулацкіх, шкодніцкіх і антысавецкіх элемэнтаў, мабілізуючы шырокія калгасныя масы, рабочых саўгасаў і МТС на барацьбу за арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне калгасаў і саўгасаў, за ахову і недатычнасьць грамадзкай саўгаснай і калгаснай уласнасьці, за рост прыбыткаў у калгасах і саўгасах, за своечасовае і поўнае выкананьне калгасамі і калгасьнікамі, саўгасамі і аднаасобнікамі ўсіх абавязкаў перад дзяржавай.

Побач з правядзеньнем ачысткі зямельных органаў ад кулацкіх, антысавецкіх элемэнтаў, зьвярнуць выключную ўвагу на падбор людзей адданых савецкай уладзе, якія могуць забясьпечыць правядзеньне задач, пастаўленых партыяй і савецкай уладай у вёсцы, стварыўшы неабходныя і ўважлівыя адносіны да спэцыялістаў.

Пры прыёме новых членаў у калгасы кіравацца наступнай пастановай ЦВК Саюзу ССР.

„Ухваліць практыку лепшых калгасаў, якія з усёй строгасьцю адносяцца да прыёму ў калгасы новых членаў. Прыём новых членаў у калгасы можа ўтварацца толькі пры ўмове, калі аднаасобнік, уступаючы ў калгас, добрасумленна выканаў вытворчыя заданьні і абавязацельствы па здачы прадукцыі дзяржаве і здае ў калгас свайго каня і прыпадаючы на яго долю пасеўны матарыял".

2. Прызнаць зусім правільным і своечасовымі рашэньні партыі і ўраду аб арганізацыі палітаддзелу МТС і саўгасаў, якія забясьпечаць ператварэньне МТС і саўгасаў і цэнтры ня толькі гаспадарча-тэхнічнага, але і арганізацыйнага і палітычнага кіраўніцтва і ўплыву на шырокія масы калгасьнікаў.

Даручыць Савету народных камісараў БССР распрацаваць і ажыцьцявіць практычныя мерапрыемствы па ўсямерным умацаваньні МТС і саўгасаў, паставіўшы перад МТС задачы забясьпечаньня бязумоўнага і своечасовага выкананьня калгасамі і калгасьнікамі сваіх абавязкаў перад дзяржавай, асабліва рашуча змагаючыся з раскраданьнем калгаснай маемасьці і зьявішчамі сабатажу, мерапрыемстваў партыі і ўраду ў галіне дзяржаўных нарыхтовак. МТС у першую чаргу нясуць поўную адказнасьць за ўздым ураджайнасьці калгасных палёў.

3. Зацьвердзіць плян вясеньняй сяўбы ў 2.680.000 га, з іх зернявых—1.359.000 га, тэхнічных—298.000 га, у тым ліку ільну—260.000 га, бульбы—620.000 га. Па сэктарах: калгасы—1.225.000 га, саўгасы—160.000 га (трэсьціраваныя), аднаасобныя гаспадаркі—1.295.000 га.

Устанавіць сярэднюю ураджайнасьць па рэспубліцы зернявых—8 цэнтнэраў з га, ільну—2,4 цэнт., бульбы—100 цэнтн.

Даручыць Савету народных камісараў БССР устанавіць ураджайнасьць па кожным раёне ў паасобку, а РВК—па сельсаветах і калгасах.

Лічыць абавязковым поўнае выкананьне ўстаноўленых плянаў для раёнаў, саўгасаў, калгасаў і аднаасобных гаспадарак па плошчы і культурах.

4. Абавязаць РВК, сельсаветы, саўгасы, калгасы і аднаасобныя гаспадаркі правесьці засыпку і ачыстку насеньня ў разьмерах засеваў, устаноўленых для іх плянам. Папярэдзіць саўгасы, калгасы і аднаасобныя гаспадаркі, што яны нясуць поўную адказнасьць за своечасовую і поўную засыпку насеньня і за захаваньне насенных і страхавых фондаў. За ўсякае разбазарваньне, раскра-

даньне і псаваньне гэтых фондаў яны адказваюць як за зрыў важнейшых мерапрыемстваў партыі і ўраду.

Прапанаваць Народнаму камісарыяту земляробства, Упаўнаважанаму НК збожжавых і жывёлагадоўчых саўгасаў на працягу трох дзён канчаткова ўдасканаліць і давесьці пляны да кожнага раёну і па сэктарох, а РВК на працягу аднэй дэкады ўдасканаліць і давесьці пляны да калгасаў і аднаасобных гаспадарак.

5. У сувязі з тым, што без устанаўленьня цьвёрдай працоўнай дысцыпліны і стражайшага кантролю і вучоту працы кожнага калгасьніка ня можа быць і гутаркі аб ўмацаваньні калгасаў і росту дабрабыту калгасьнікаў прапанаваць зямельным органам, РВК, саветам і праўленьням калгасаў няўхільна праводзіць у жыцьцё пастанову ЦВК БССР аб дапаўненьні прыкладнага стутуту сельгасарцелі наступным пунктам:

„У выпадку адмаўленьня члена калгасу па няўважлівых прычынах ад выкананьня даручанай яму калгасам работы праўленьне калгасу абавязана штрафаваць яго ў колькасьці да 5-ці працадзён, а пры паўторным адмаўленьні— выключыць з калгасу“.

6. Даручыць Народнаму камісарыяту земляробства, РВК, МТС і сельсаветам асноўную ўвагу ў рабоце па арганізацыі калгаснай вытворчасьці сканцэнтраваць на правільнай арганізацыі працы ў калгасах, памятуючы, што „прадукцыйнасьць працы,—гэта ў апошнім рахунку самае важнае, самае галоўнае для перамогі новага грамадзкага ладу“ (Ленін, т. XXIV, стр. 342), у адпаведнасьці з чым:

а) Наркамзему не пазьней 20-га лютага г. г., пры ўдзеле лепшых ударнікаў-калгасьнікаў і калгасьніц, распрацаваць і даслаць мясцом прыкладныя нормы выпрацоўкі, іх ацэнку ў працаднёх, павялічыўшы расцэнкі для цяжкіх і кваліфікаваных работ, даручыць Наркамземляробства ў дэкадны тэрмін даць паказаньні мясцом аб разьмерах хістаньняў у бок павялічэньня ці зьніжэньня норм выпрацоўкі;

б) не пазьней 1-га сакавіка г. г. прапрацаваць дакладныя нормы выпрацоўкі і расцэнкі ў працаднёх ва ўсіх калгасах і зацьвердзіць на агульных сходах калгасьнікаў;

в) не пазьней 15-га сакавіка г. г. правесьці прымацаваньне сталых вытворчых брыгад да вытворчых палявых участкаў ў палёх севазвароту на ўвесь тэрмін севазвароту, замацаваўшы за кожнай брыгадай сельгасінвэнтар, рабочую жывёлу, насеньне і корм для рабочай жывёлы;

г) для ўзмацненьня сапраўднай адказнасьці брыгадзіра і ўсёй брыгады за ўздым ураджайнасьці і за захаваньне ў добрым выглядзе сельгасінвэнтару і рабочай жывёлы: устанавіць зьніжэньне і падвышэньне ацэнкі працадзён у залежнасьці ад якасьці работы і вынікаў работы брыгады, пры чым выключная ўвага павінна быць зьвернута на ўсямернае ўмацаваньне брыгады, як асноўнай вытворчай адзінкі;

д) не пазьней 1-га сакавіка г. г. устанавіць гранічныя нормы выдаткаў на адміністрацыйна кіруючы пэрсанал калгасаў, выходзячы з разьмеру і магутнасьці калгасу. Натуральная выдача за працу не павінна перавышаць выдачы лепшаму ўдарніку-калгасьніку.

7. У сувязі з тым, што ў справе правільнай арганізацыі вытворчасьці і працы ў калгасах і саўгасах адыгрывае рашаючую ролю своечасовае і добраякаснае складаньне вытворчых плянаў па калгасах і вытворча-фінансавых плянаў па саўгасах, абавязаць Народны камісарыят земляробства, Упаўнаважанага народнага камісарыяту саўгасаў, РВК, МТС, саўгасныя трэсты і сельсаветы не пазьней 15 сакавіка г. г. скласьці ва ўсіх калгасах вытворчыя пляны, а ў саўгасах—вытворча-фінансавыя пляны на 1933 год, мабілізаваўшы для гэтае мэты ня менш 75 проц. аграспэцыялістаў як цэнтральных, так і раённых устаноў.

Надаючы вялікае значэньне правільнай пастаноўцы вучоту працы, вытворчасьці і прадукцыйнасьці ў калгасах, абавязаць зямельныя органы, РВК і сельсаветы правесьці наступныя мерапрыемствы:

а) падбор лепшых калгасных рахункаводаў, абавязкова зацьвярджаючы кожнага калгаснага рахункавода, па прадстаўленьні праўленьняў калгасаў, на прэзыдыуме РВК;

б) правядзеньне дасканалай грамадзкай праверкі рахункаводаў, кладаўшчы-

коў і загадчыкаў гаспадаркі ва ўсіх калгасах;

в) абабязаць Народны камісарыят юстыцыі, РВК і сельсаветы ўсякі абман у справе калгаснага ўліку разглядаць на падставе пастановы ЦВК і СНК Саюзу ССР за 7 жніўня 1932 г., як спробу раскраданьня калгаснай маемасьці, з ўсімі выцякаючымі адсюль вынікамі.

8. Надаючы асаблівае значэньне новаму закону партыі і саюзнага ўраду аб збожжанарыхтоўках, які ў значнай меры павышае зацікаўленасьць калгасьнікаў і аднаасобнікаў у падвышэньні ўраджайнасьці, цэнтральны выканаўчы камітэт БССР прапануе ўсім РВК, сельсаветам і гарсаветам:

а) шырока растлумачыць калгасьнікам і аднаасобнікам гэты закон, увязваючы гэту работу з усімі мерапрыемствамі накіраванымі на ўздым ураджайнасьці;

б) на працягу 1933 году ва ўсіх калгасах і саўгасах увесьці севазвароты ў адпаведнасьці з чым перабудаваць землеўпарадкоўчую работу і сканцэнтраваць пры гэтым увагу на землеўпарадкаваньні калгасаў, саўгасаў і адводзе палёў севазвароту;

в) поўнасьцю вывезьці гной пад яравы пасеў, абавязкова поўна скарыстаць мінэральныя ўгнаеньні, зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на скарыстаньне мясцовых рэсурсаў ўгнаеньня (адкіды прамысловасьці, гарадоў, попел, торф, вапна);

г) у мэтах больш шырокага ўжываньня торфу, як угнаеньня прапанаваць Народнаму камісарыяту земляробства і ўсім райвыканкомам правесьці досьледы торфу ва ўсіх раёнах, для стварэньня ўмоў больш шырокага выкарыстаньня торфу, як падсьцілкі і ўгнаеньня;

д) правесьці абавязковую поўную ачыстку ўсяго насеннага матар'ялу;

е) поўнасьцю скарыстаць сеялкі ва ўсіх МТС, калгасах і саўгасах, павялічыўшы да максымуму нагрузку на адну сеялку;

ж) забараніць пасеў усіх культур у аднавор (без паўторнага ворыва) у час веснавой сяўбы;

з) прапанаваць РВК, сельсаветам, калгасам і саўгасам у тых мясцох, дзе застой вады перашкаджае праводзіць сваечасовую сяўбу, альбо пагражае вымачцы пасеву, абавязкова забясьпечыць спуск вады шляхам прыцягненьня калгасьнікаў, аднаасобнікаў і рабочых саўгасаў да правядзеньня неабходных работ;

і) устанавіць, што ў час веснавой сяўбы, збожжа і тэхкультуры павінны быць пасеяны на працягу 12-ці дзён, а бульба і караньплоды—на працягу 15-ці дзён, устанавіць каляндарныя тэрміны па кожнаму калгасу і саўгасу;

к) вылучыць недатыкальныя фуражныя фонды на час вясеньніх пасеўных работ, кіруючыся пастановай ЦК УсеКП(б) і СНК СССР аб тым, што за парушэньне агранамічных правіл вінаватых караць грамадзкім ганьбаваньнем, грашовым і натуральным штрафам, а асоб, якія злосна парушаюць гэтыя правілы, прыцягваць да крымінальнай адказнасьці.

9. Адзначыць наяўнасьць фактаў простага шкодніцтва і нядбайных адносін да каня,—асноўнай цягавай сілы, што зьяўляецца аднэй з форм кулацкага шкодніцтва. Абавязаць усіх старшынь калгасаў, дырэктароў саўгасаў і РВК на аснове пастановы ЦК УсеКП(б) і СНК Саюзу ССР за 10 лютага 1933 г. „аб падрыхтоўцы рабочай жывёлы да веснавой сяўбы“, устанавіць стражайшы кантроль за скарыстаньнем каня, уходу за ім, зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на падбор людзей з лепшых правераных калгасьнікаў і рабочых саўгасаў, якім даручаецца гэтая работа. За ўсякія злачынствы і нядобрасумленныя адносіны да каня прыцягваць вінаватых да стражайшай адказнасьці.

10. У мэтах падвышэньня ролі МТС у галіне агранаміі, арганізацыі вытворчасьці працы, сацыялістычнага перавыхаваньня калгасных мас, даручыць Народнаму камісарыяту земляробства, Упаўнаважанаму народнага камісарыята саўгасаў і трактарацэнтру правесьці наступныя мерапрыемствы:

а) канчаткова ліквідаваць абязьлічку ў карыстаньні машынамі;

б) устанавіць нормы нагрузкі на трактар і асноўныя сельскагаспадарчыя машыны;

в) закончыць ва ўстаноўленыя тэрміны капітальны рамонт трактараў і арганізаваць сыстэматычны, папераджальны рамон трактараў і машын;

г) правесьці падрыхтоўку і перападрыхтоўку кваліфікаваных кадраў для работы на трактарах і складаных сель-

ска-гаспадарчых машынах, вядучы рашучую барацьбу з нядбайнымі і шкодніцкімі адносінамі да машын. Разам з гэтым намеціць рад мерапрыемстваў, якія-б стымулявалі лепшыя адносіны да машын.

11. Адзначаючы зусім нездавальняючае скарыстаньне сацсэктарам сельскай гаспадаркі дзяржаўнага крэдыту, абавязаць Народны камісарыят земляробства дабіцца поўнага і рацыянальнага скарыстаньня дзяржаўнага крэдыту. Прыняць безадкладныя меры да правільнага і своечасовага скарыстаньня бюджэтных сродкаў і крэдытаў на падрыхтоўку і правядзеньне веснавой кампаніі, асабліва на рамонт трактараў, набыцьцё насеньня, угнаеньня і г. д.

12. Падкрэсьліваючы вялізарную ролю саўгасаў ня толькі як гаспадарча-тэхнічных, але і як палітычна-гаспадарчых цэнтраў у справе сацыялістычнай перабудовы сельскай гаспадаркі, Цэнтральны выканаўчы камітэт БССР патрабуе ад усіх саўгасаў сапраўды бальшавіцкіх прыкладаў барацьбы ў справе ўздыму ўраджайнасьці сацыялістычных палёў і павялічэньня прадукцыйнасьці жывёлагадоўлі, бязумоўнага і своечасовага выкананьня сваіх абавязкаў перад дзяржавай, рашуча змагаючыся з спробамі супроцьпаставіць вузкія інтарэсы саўгасаў агульным інтарэсам дзяржавы.

Цэнтральны выканаўчы камітэт БССР ставіць наступныя задачы перад саўгасамі:

а) гаспадарчае асваеньне зямель, заканчэньне будаўніцтва і земляўпарадкаваньня;

б) падвышэньне выпуска прадукцыі, рэнтабэльнасьці саўгасаў, зьніжэньне сабекошту і поўнае ўкараненьне гаспадарчага разьліку;

в) барацьба з злачыннымі, безгаспадарчымі адносінамі да дзяржаўнай маёмасьці;

г) арганізацыя і падвышэньне прадукцыйнасьці працы, стварэньне сталых рабочых кадраў, ачыстка саўгасаў ад кулакоў і іншых антысавецкіх элемэнтаў;

д) не пазьней 15-га сакавіка г. г. закончыць работу па арганізацыі сталых брыгад і замацаваньне за імі вытворчых вучасткаў, асаблівую ўвагу зьвярнуўшы на ўстанаўленьне зьдзельнай аплаты працы, уплатненьне рабочага дню, ліквідацыю абязьлічкі і падняцьцё працоўнай дысцыпліны.

13. Цэнтральны выканаўчы камітэт БССР, папярэджваючы супроць недаацэнкі аднаасобнага сэктару ў часе веснавой сяўбы, абавязвае Народны камісарыят земляробства, РВК і сельсаветы разгарнуць масавую работу сярод беднякоў, сераднякоў па поўнаму выкананьню пляну веснавой сяўбы і ўздыму ўраджайнасьці, своечасовай падрыхтоўцы, засыпцы і ачыстцы насеньня і г.д., арганізаваўшы побач з гэтым узаемадапамогу паміж калгасамі, саўгасамі, МТС і аднаасобнікамі. Адначасова ўжываць у адносінах аднаасобнікаў, якія злосна сабатуюць мерапрыемствы па веснавой сяўбе, самыя рашучыя меры ўзьдзейнічаньня, да пазбаўленьня сядзібных зямель і высяленьня за межы БССР уключна.

14. Прапанаваць райвыканкомам, сельсаветам, камітэтам сялянскай узаемадапамогі на працягу да 15-га сакавіка г.г. узыскаць усю выдадзеную насенную ссуду і скарыстаць яе выключна для пасеву.

15. У сувязі з тым, што ва ўмовах БССР жывёлагадоўля адыгрывае рашаючую ролю, абавязаць Народны камісарыят земляробства, Упаўнаважанага народнага камісарыяту саўгасаў, райвыканкомы і сельсаветы ў час падрыхтоўкі і правядзеньня веснавой сяўбы, узмацніць работу ў галіне ўмацаваньня і далейшага разьвіцьця жывёлагадоўлі, асабліва ў жывёлагадоўчых саўгасах і калгасных фэрмах, правядзеньня злучной кампаніі, стварэньня кармавой базы, своечасовай і поўнай здачы таварнай прадукцыі дзяржаве.

16. Падрыхтоўка да веснавой сяўбы і яе правядзеньне будуць праходзіць ва ўмовах жорсткай клясавай барацьбы. Рэшткі кулацтва і антысавецкія элемэнты будуць усімі мерамі зрываць пасьпяховае правядзеньне севу, мерапрыемствы па ўздыму ўраджайнасьці, разьвіцьцю сацыялістычнай жывёлагадоўлі і арганізацыйна-гаспадарчаму ўмацаваньню калгасаў і саўгасаў. Задачай раённых выканаўчых камітэтаў, МТС, саўгасаў, сельсаветаў, праўленьняў калгасаў і калгаснага актыву зьяўляецца арганізацыя мас калгасьнікаў і бядняцка-серадняцкага сялянства даць

рашучы адпор гэтым спробам і зьнішчыць кулацкі сабатаж.

Цэнтральны выканаўчы камітэт БССР з усёй сілай падкрэсьлівае выключна вялікую ролю сельсаветаў у вырашэньні пастаўленых задач, як органаў пралетарскай дыктатуры ў вёсцы.

Толькі на аснове бязьлітаснай барацьбы з кулаком і яго агентамі, узброіўшыся рэвалюцыйнай пільнасьцю да клясавага ворага, на аснове шырачэйшай мабілізацыі калгасных мас, рабочых саўгасаў і МТС, разгортваючы сацыялістычнае спаборніцтва і ўдарніцтва—будзе забясьпечана пасьпяховае правядзеньне сяўбы, уздыму ўраджайнасьці палёў і прадукцыйнасьці жывёлы, сацыялістычнае перавыхаваньне калгасных мас і арганізацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне калгасаў і саўгасаў.

Старшыня Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР
**А. Чарвякоў.**

Сакратар Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР
**М. Гілякевіч.**



# АБ ХОДЗЕ РАМОНТУ ТРАКТАРАЎ

## ПАСТАНОВА ЦК КП(б)Б і СНК БССР

ЦК КП(б)Б і СНК БССР канстатуюць, што рамонт трактараў ідзе, як і раней, нездавальняюча. Ганебныя тэмпы паказваюць Ільнатрактарацэнтр і сыстэма Упаўнаркамсаўгасаў (асабліва Менскі, Аршанскі сьвінагадоўчы трэст, Віцебскі малтрэст). Неабходныя тэмпы рамонту зрываюцца як у выніку нездавальняючага паступлення дэталяй (запчастак) трактараў з за дрэннай працы прадпрыемстваў і снабрамонту, так і з прычыны нездавальняючай апэрацыйнай работы трактарацэнтраў, Упаўнаркамсаўгасаў, МТС, МТМ і саўгасаў.

ЦК КП(б)Б і СНК БССР таму пастанаўляюць:

1. За непрыняцьце неабходных апэрацыйных мер, якія-б забясьпечвалі пералом у рамонце трактараў, абвясьціць вымову т. Бімбаду (Упаўнаркамсаўгасаў), дырэктаром: Клімавіцкай МТМ —т. Рунгайму, Дзяржынскай—т. Лазарэвічу; дырэктаром МТС: Слуцкай—т. Пятрашэвічу, Шклоўскай—т. Зялінкоўскаму, Гарадоцкай—т. Нікіфараву, Дзяржынскай—т. Атахелю; дырэктаром Менскага трэсту—т. Жуку, Аршанскага сьвінагадоўчага—т. Аскерка, Віцебскага малтрэсту—т. Казаку.

Папярэдзіць тав. Сьмірнова, што ён, як намесьнік Упаўнаркамсаўгасаў, якому спэцыяльна даручан нагляд за рамонтам трактараў па ўсіх сыстэмах, абавязан больш уважліва сачыць за ходам рамонту і прымаць сваечасовыя апэрацыйныя захады.

Прыняць да ведама, што ў адносінах дырэктара Аршанскай МТМ ЦКК прыняла адпаведную пастанову.

Папярэдзіць паказаных таварышоў, што калі ў бліжэйшую пяціднёўку імі ня будзе створан рашучы пералом, ЦК і СНК прымуць больш рашучыя захады ўзьдзейнічаньня.

Папярэдзіць дырэктароў магілеўскага заводу „Адраджэнец“ і заводу „Пралетары“, што ў выпадку няпрыняцьця імі ў бліжэйшыя-ж дні захадаў для стварэньня пералому ў справе рамонту трактараў, у адносінах да іх будуць прыняты суровыя меры ўзьдзейнічаньня.

2. Лічыць, што важнейшым зьвяном у бліжэйшыя дні зьяўляецца выраб і адгрузка запчастак у МТС, у МТМ і саўгасы. Абавязаць т. т. Шафарэнка, Чарнушэвіча, Міцькова, Калодка і Чарнышова асабіста кантраляваць адгрузку запчастак з прадпрыемстваў.

Абавязаць т. Будніка на працягу 12 гадзін даслаць прадпрыемствам дэтальную разнарадку, якія запчасткі і куды павінны накіроўвацца.

Правесьці 28 лютага 1933 г. праверачнае абсьледваньне складаў снабрамонту абавязаўшы т. Будніка не пазьней 1 сакавіка 1933 г. правесьці разгрузку складаў шляхам адпраўкі запчастак у МТС і МТМ.

Абавязаць т. Эгле і начальнікаў раёнаў узяць пад асабісты кантроль прасоўваньне грузаў і запчастак па чыгунцы.

3. Папярэдзіць дырэктароў МТМ, што калі ў далейшым будуць выкрыты факты сабатажу рамонту трактараў і іншых трактарацэнтраў, дырэктар МТМ будзе неадкладна аддадзены пад суд.

4. У сувязі са сканчэньнем рамонту па радзе МТС прапанаваць трактарацэнтрам у двухдзённы тэрмін перакідваць брыгады лепшых рамонтных рабочых у адстаючыя МТС.

Для стымуляваньня работы перадавых рабочых МТС устанавіць у кожным трактарацэнтры і МТС прэміяльны фонд.

5. У сувязі з тым, што па раду МТС трактары ня могуць быць прыняты камісіяй з-за немагчымасьці іх пуску, з прычыны адсутнасьці гаручага, прапанаваць т. Фрумкіну ў аднадзённы тэрмін, разам з трактарацэнтрам і Упаўнаркам-

саўгасаў зрабіць разьвёрстку мінімальнай колькасьці бэнзыны, неабходнай для работы трактараў.

6. Прапанаваць усім трактарацэнтрам перавесьці на тры зьмены работу МТМ.

7. Прапанаваць дырэктару гароднябульбянага трактарацэнтру не пазьней 27 лютага выслаць у Церахаўскі раён адказнага работніка для праверкі паведамленага т. Шаранговічам факту аб тым, што Церахаўская МТС адмовілася выслаць у Гомель 13 трактараў, лічачы іх спраўнымі.

8. Даручыць т. Жолудаву разгледзець факты рамонту саўгасных трактараў у апошнюю чаргу і аб выніках паведаміць пасеўкамісіі.

Сакратар ЦК КП(б)Б **Гікало**

Старшыня СНК БССР **Галадзед**

# АБ ЗАПАСНЫХ ЧАСТКАХ

**Пастанова ЦК КПБ(б)Б і СНК БССР**

1. Лічыць устаноўленым, што Наркамзем і Упаўнаркамсаўгасаў непрадумана, без папярэдняй дакладнай работы падыйшлі да пытаньня аб заяўках на неабходныя дэталі (запчасткі) для рамонту трактараў, у выніку чаго даныя прадстаўленыя ў Цэнтрапасеўком у канцы студзеня, аказваюцца праўменшанымі.

2. Лічыць таму неабходным павялічыць цэнтралізаванае заданьне рэспубліканскай мэталяпрамысловасьці па выпрацоўцы запчастак: поршняў „ФП“—да 1566 штук (замест ранейшых 500), гільз цыліндравых 640, пальцаў поршнявых 2400, балтоўсьцяжных 760 (500), шатунных балтоў 5450 (4200), поршнявых калец—5000, утулак Цапф бронзавых 400. Па „ХТЗ“ і „СТЗ“—поршнявых камплектаў—564, пальцаў поршнявых—1130, шатунных балтоў 1970 і для іншых марак—294, поршнявых калец 5780 (5000), дыскаў муфты шчапленьня—160 (100), бронзавых утулак 1770 (1400), напраўляючыя ўтулкі чыгунныя—200, укладышаў ніжняй галоўкі шатуна 560 (400). Па „Інтэр“ 10-20—пальцаў поршнявых—210. „Манарх“—масьляных калец—62, поршнявых калец—85, балтоў шатунных—70, пальцаў поршнявых—50, пальцаў гусенічных—800. Па „Інтэру“—22-35, поршняў 100 шт., шатунных балтоў—200, утулак галоўкі шатуна 100 і паршнявых пальцаў 100.

Пытаньне аб вытворчасьці цыліндрычных гільз вырашыць камісіі ў складзе г. т. Ленцнэра, Моўкава і Орсіка (НКЗ). На працягу 12 гадзін дадаткова вырашыць пытаньне аб магчымасьці разьмяшчэньня гэтага заказу па заводах БелМЭТО.

3. Даручыць Наркамзему, Упаўнаркамсаўгасаў сумесна з Упаўнаркамцяжпромам на працягу 1 дня аформіць дадатковы заказ на запчасткі.

4. Устанавіць адзіны плян выпрацоўкі запчастак па рэспубліцы, уключыўшы ў гэты плян усе раней заключаныя ўмовы Белсельснабрамонту, заданьні мясцовых пасеўтроек і заказы паасобных МТМ, даныя ў парадку шэфства. Забараніць мясцовым пасеўкомам даваць новыя заданьні.

Усе вырабляемыя заводамі запчасткі разьмяркоўваюцца апошнімі выключна па нарадах Наркамзему і Наркамсаўгасаў у межах іх заказа.

5. Белмэталяаб'яднаньню ўвесь дадатковы заказ на працягу 24 гадзін разьмеркаваць па сваіх прадпрыемствах з такім разьлікам, каб увесь заказ на запчасткі выканаць не пазьней 10|III-33 г.

Наркамзему і Наркамсаўгасаў у сутачны тэрмін даць заводам сваю разнарадку на адпраўку запчастак.

Абавязаць т. Орсіка (Наркамзем) і тав. Бімбата (Наркамсаўгасаў) на працягу 24-х гадзін даставіць Белмэталяаб'яднаньню ўзоры альбо чарцяжы дэталяў на дадатковыя часткі, якія не ўвайшлі ў асноўны плян.

6. Адзначыць агідную цяганіну з адгрузкай і прасоўваньнем запчастак з боку Белснабрамонту.

Тав. Будніку (заг. Белснабрамонтам) за ігнараваньне пастановы Цэнтрапасеўкому аб забесьпячэньні сваечасовай



адпраўкі дэфіцытных запчастак, што прывяло да павялічэньня разьмеру замаражваньня дэфіцытных запчастак на базе (з 99 поршняў заводу імя Варашылава ніводны не адпраўлен на месцы; з 2500 калец заводу „Камунар"—500 яшчэ ляжаць на складзе) абвясьціць суровую вымову і папярэдзіць яго, што калі ён у бліжэйшыя дні не перабудуе работу Белснабрамонту так, каб забясьпечыць хуткую адгрузку і адпраўку запчастак—дык ЦК і СНК прыцягнуць да суровай партыйнай і судовай адказнасьці.

За беспадстаўнае зьмяншэньне заданьня ЦК аб вырабу 6200 шатунных балтоў замест 10200, указаных у заданьні ЦК, за сыстэматычны зрыў своечасовай адпраўкі запчастак тав. Шорсу (Белснабрамонт) абвясьціць суровую вымову з папярэджаньнем і папярэдзіць, што калі ён будзе ў далейшым праяўляць бюрократычную валакіту ў рабоце, будзе пастаўлена пытаньне аб яго партыйнасьці.

Загадчыку складам Белснабрамонту т. Наумчанка за ганебна-нядбайныя адносіны да хаваньня запчастак, за безадказныя адносіны да выкананьня нарадаў, за замаражваньне на складзе востра дэфіцытных частак—зьняць з работы і прасіць ЦКК вырашыць пытаньне аб яго партыйнасьці. Даручыць Аддзелу Кадраў ГК КП(б)Б на працягу 24-х гадзін накіраваць загадчыка складам Белснабрамонту.

7. Прыняць да ведама заяву т. Еўдакімава (НК), што бабітам для рамонту ўсяго трактарнага парку сыстэмы Наркамзем забясьпечан поўнасьцю і заяву т. Бімбата—што для рамонту трактароў згодна пляну, не хапае 590 кгр. бабіту і 60 кгр. волава.

Лічыць неабходным на працягу 24-х гадзін правесьці ўлік наяўнасьці волава і бабіту па прадпрыемствах БССР, забраніраваўшы лішкі для перадачы сыстэмам Упаўнаркамсаўгасаў і Наркамзему.

8. Улічваючы, што рад востра дэфіцытных дэталяў ня могуць быць выраблены заводамі БелМЭТО (каленчатыя валы, клапаны, цапфы і інш.), абавязаць таварышоў Жолудава, Рачыцкага і Будніка дабіцца атрыманьня неабходнай колькасьці гэтых дэталяў не пазьней 5 сакавіка.

9. Тав. Будніку ўстанавіць выразны штодзённы кантроль за выкананьнем базамі разнарадак і ў адпадзённы тэрмін стварыць на базах умовы работы, якія-б забясьпечылі поўнае выкананьне нарадаў у дзень паступленьня (забесьпячэньне тарай і ўпаковачнымі матар'яламі і перавод базы на кругласутачную работу).

На працягу аднаго дня забясьпечыць выразную сыстэму прасоўваньня запасных частак у МТМ і МТС з тым, каб па разнарадках заводы, выпрацоўваючыя запчасткі, непасрэдна адпраўлялі-б іх па гаспадарках МТС, МТМ і саўгасах.

10. Прапанаваць т. т. Эгле і Дубіна забясьпечыць унечарговую дастаўку запчастак мясцом, як тэрміновыя пасеўныя грузы.

11. Абавязаць т. Шоўкава (БелМЭТО) арганізаваць праверку якасьці выпускаемых дэталяў і ўстанавіць на заводах такі парадак, па якіх магчыма было-б ведаць, якім прадпрыемствам выпушчана даная дэталь.

12. Апублікаваць у друку.

## Аб бюракратычнай цеганіне з прасоўваньнем запасных частак

*ПАСТАНОВА ЦК КП(б)Б і СНК БССР*

1. Лічыць устаноўленым, што ў рабоце трактарацэнтраў, сыстэме Упаўнаркамсаўгасаў і Белснабрамонту існуе недапушчальна бюракратычная сыстэма прасоўваньня запасных частак, якая зрывае хуткую дастаўку запасных частак на рашаючыя цэнтры рамонту трактараў (МТМ).

Замест таго, каб адпраўляць запасныя часткі (дэталі) у МТМ, дзе рамантуюцца трактары, вышэйпаказаныя арганізацыі адпраўляюць гэтыя запасныя часткі спачатку ў саўгасны трэст або МТС, адкуль потым яны пераадпраўляюцца ў МТМ.

У выніку гэтай агіднай бюракратыч-



най сыстэмы, запасныя часткі з Менску, напрыклад, накіроўваюцца ў Хойнікі (праз Гомель), а з Хойнікаў у Гомель, з гомельскіх прадпрыемстваў у Хойнікі, а з Хойнікаў у гомельскую МТМ, з Менску ў Пухавічы, а потым з Пухавіч (праз Менск) у Дзяржынск; з Менску ў Дуброўна (праз Воршу), а потым з Дуброўна ў Воршу і г. д. і г. д. У выніку запасныя часткі іншы раз прасоўваюцца тыднямі.

ЦК і СНК даручаюць ЦКК-РСІ ў двухдзённы тэрмін рассьледваць справу, выявіць канкрэтных вінаватых зла і строга караць іх аж да выключэньня з партыі і адданьня суду.

2. Прапанаваць трактарным аб'яднаньням—пэрсанальна т. т. Грэбенчыку, Сяліванаву і Дубоўскаму, заг. Белканторы саўгасснабу Гняўко, Белснабрамонту—т. Будніку ў аднадзённы тэрмін ліквідаваць вышэй паказаную бюракратычную сыстэму прасоўваньня запасных частак, прымаючы асабісты ўдзел у распрацоўцы новай сыстэмы прасоўваньня запчастак непасрэдна з прадпрыемстваў або складаў (калі запасныя часткі прыходзяць цэнтралізаваным саюзным парадкам) у месцы рамонту трактараў (напрыклад, калі трактары МТС рамантуюцца ў МТМ).

Даручыць т. Турлаю асабіста і сыстэматычна правяраць, як выконваецца даная пастанова ЦК і СНК.

3. Папярэдзіць у той-жа час загадчыкаў МТМ, што калі ў далейшым будуць паўтарацца выпадкі скарыстаньня запчастак, атрыманых для трактараў МТС данага (напрыклад, збожжавага трактарацэнтру) для рамонту трактараў таго (напрыклад. гародня-бульбянога) трактарацэнтру, да якога належыць МТМ, яны (загадчыкі) будуць безадкладна прыцягвацца да судовай адказнасьці і падпадаць партспагнаньням аж да выключэньня з партыі. Папярэдзіць упаўнаважаных ЦК у МТМ, што яны будуць несьці такую-ж адказнасьць за паказаныя выпадкі рвацкіх адносін да запасных частак, як і загадчыкі МТМ. Указаць упаўнаважаным ЦК, што яны павінны строга наглядаць за тым, каб не дапускаць паказаных фактаў і безадкладна паведамляць у Цэнтрапасеўкам аб выпадках рвацтва.

# Пастанова ЦК КП(б)Б і СНК БССР аб упаўнаважаных ЦК у саўгасных трэстах і саўгасах сыстэмы Упаўнаркамсаўгасаў

1. ЦК і СНК канстатуюць як нездавальняючы ход рамонту трактараў так і ўсю работу саўгасных трэстаў па падрыхтоўцы да сева, ЦК і СНК лічаць пагэтаму неабходным камандыраваць сваіх упаўнаважаных у саўгасныя трэсты і (папярэдня) 20 буйнейшых саўгасаў.

2. Зацьвердзіць наступны сьпісак упаўнаважаных па саўгасных трэстах:

1) Менскаму Сьвінаводтрэсту т. Лісковіч.

2) Магілеўскаму Сьвінаводтрэсту тав. Клебанаў.

3) Аршанскаму Сьвінаводтрэсту т. Рай.

4) Менскаму Малпрамтрэсту т. Дзяніскевіч.

5) Гомельскаму Малпрамтрэсту тав. Браўковіч.

6) Віцебскаму Малпрамтрэсту т. Трыфсік.

7) Птушкатрэсту (Менск) т. Матусевіч.

8) Плем. Сьвінаводтрэсту (Менск) т. Конюхаў.

3. Зацьвердзіць сьпіс упаўнаважаных ЦК па 20 буйнейшых саўгасах. Вызначыць ад'езд таварышоў не пазьней 28/II. Даручыць т. Шаранговічу правесьці інструкцыйную нараду з таварышамі.

4. Асноўнай задачай упаўнаважаных паставіць паскарэньне тэмпаў падрыхтоўкі да сяўбы, у прыватнасьці рамонту трактараў, завозу мінугнаеньняў, семена і г. д.

5. Апублікаваць у друку.

# Аб раёнах, якія ганебна адстаюць ў падрыхтоўцы да веснавой сяўбы

## Пастанова ЦК КП(б)Б і СНК БССР

1. ЦК і СНК канстатуюць, што пры агульнай нездавальняючай падрыхтоўцы да сяўбы цэлы рад раёнаў даюць асабліва ганебныя тэмпы. Такімі раёнамі зьяўляюцца:

| | Проц. ссыпкі насен. фондаў на 24 II-33 г. Збожжа | Ільну | Бульбы | Рамонт трактар. у МТС на 24 II | Сакратар РК Старшыня РВК |
|---|---|---|---|---|---|
| Полацак | 94,8 | 28,7 | 93,4 | 20,8 | Пыжыкаў—Шаболтыс |
| Гарадок | 90,7 | 59,0 | 78,8 | 10,3 | (МТМ) Эльман-Еўдасьеў |
| Крупкі | 98,6 | 58,3 | 96,5 | 16,9 | Штэйнгард—Сяльвестраў |
| Сіроціна | 78,6 | 34,0 | 52,2 | — | Усенка—Ражноўскі |
| Бешанковічы | 92,8 | 58,6 | 74,9 | 6,9 | Якаўлеў—Шах |
| Плешчаніцы | 88,2 | 64,2 | 98,2 | 30,0 | Папянкоў—Лук'янчык |
| Расоны | 101,7 | 22,8 | 78,7 | 33,3 | Карчык—Партноў |
| Бялынічы | 99,8 | 60,9 | 92,3 | 4,8 | Гайдукевіч—Пашкянчук |
| Шклоў | 87,4 | 53,1 | 117,8 | 5,0 | Кіштымаў—Мішчонак |
| Сянно | 104,2 | 49,2 | 86,4 | 21,8 | Дашукевіч—Брэль |

ЦК і СНК канстатуюць, што ня гледзячы на неаднаразовыя папярэджаньні, зробленыя ЦК гэтым раёнам, і пастановы пленуму ЦК,—пералому ў справе падрыхтоўкі да сяўбы ў іх няма.

2. ЦК і СНК разглядаюць падобнае становішча з падрыхтоўкай да веснавой сяўбы ў паказаных раёнах, як няўменьне штодзённа і канкрэтна кіраваць калгасамі, што сьведчыць аб наяўнасьці саноўна-бюракратычнага папяровага кіраўніцтва, падмены ім чарнавой, будзённай бальшавіцкай работы па падрыхтоўцы да сяўбы, аб апартуністычных адносінах да важнейшай гаспадарча-палітычнай кампаніі. ЦК і СНК расьцэньваюць такое становішча з падрыхтоўкай да сяўбы ў паказаных раёнах, як яўнае ігнараваньне гістарычных указаньняў т. Сталіна ў яго прамове аб рабоце ў вёсцы.

ЦК і СНК лічаць неабходным таму неадкладна, у дадатак да ўжо раней пасланых таварышоў, камандыраваць у гэтыя раёны ўпаўнаважаных ЦК і СНК па падрыхтоўцы да сяўбы. Зацьвердзіць наступны сьпіс упаўнаважаных:

1. Полацак—т. Кроль; 2. Крупкі—т. Гнілякевіч; 3. Расоны—т. Малярэвіч; 4. Бялынічы—т. Серафімаў; 5. Сянно—т. Судакоў; 6. Гарадок—т. Пінхасік; 7. Бешанковічы—т. Жуковіч; 8. Шклоў—т. Хацкевіч; 9. Плешчаніцы—т. Дунец; 10. Сіроціна—т. Гурэвіч.

Указаць т. т. Кролю, Жуковічу, Гурэвічу і Судакову, што яны павінны побач з загатоўкамі шчыльна ўзяцца за падрыхтоўку да сяўбы.

Папярэдзіць сакратароў РК КП(б)Б і старшынь РВК паказаных раёнаў, што калі праз дэкаду ня будзе створан рашучы пералом, ЦК і СНК расцэняць гэта, як няздольнасьць данага раённага кіраўніцтва забясьпечыць бальшавіцкія

тэмпы падрыхтоўкі да сяўбы і зробяць адпаведныя арганізацыйныя вывады.

Папярэдзіць упаўнаважаных ЦК, што яны нясуць поўную адказнасьць за падрыхтоўку да сяўбы разам з раённым кіраўніцтвам.

4. ЦК і СНК адзначаюць, што па цэлым радзе іншых раёнаў (Вушачы, Чашнікі, Віцебск, Рэчыца, Чэрвень, Бягомль, Клімавічы, Смалявічы, Вузда, Хойнікі, Горкі, Старобін, Лагойск, Нароўля, Прапойск, Ветка, Жлобін, Асьвея, Уваравічы) падрыхтоўка да сяўбы вядзецца нездавальняюча.

Усё гэта гаворыць за тое, што значная частка раёнаў не перабудавалі сваёй работы на падставе пастаноў студзеньскага пленуму ЦК і ЦКК і прамовы тав. Сталіна.

ЦК і СНК патрабуюць, каб РК і РВК узяліся за канкрэтнае кіраўніцтва падрыхтоўкай да сяўбы—праверылі кожны калгас з пункту гледжаньня ачысткі яго ад клясава-варожых элемэнтаў, забясьпечылі-б ссыпку насеньня ў кожным калгасе, праверылі-б захаванасьць насеньня, яго ачыстку і дабіліся-б ажыцьцяўленьня пастаноў ЦК і СНК аб рабочай жывёле ў кожным калгасе, штодзённа—пры асабістым удзеле сакратара РК, старшыні, або нам. старшыні РВК—дапамагалі-б МТС у рамонце трактараў і г. д.

5. ЦК і СНК папярэджваюць, што кожны гарком, гарсавет, РК і РВК, кожны сакратар ГК або РК, старшыня гарсавету або РВК будзе ацэньвацца, як бальшавіцкі кіраўнік іменна пад кутом погляду яго ўменьня канкрэтна, апэрацыйна кіраваць падрыхтоўкай да сяўбы і што ЦК і СНК будуць, не зважаючы на асобы і ранейшыя заслугі, рашуча адхіляць тых, хто не забясьпечвае правядзеньня ў жыцьцё гістарычных указаньняў ЦК і правадыра партыі т. Сталіна.

Старшыня СНК БССР **М. Галадзед.**

Сакратар ЦК КП(б)Б **М. Гікало.**

# Аб ходзе падрыхтоўкі да сяўбы па Аршанскім, Сеньненскім, Быхаўскім, Барысаўскім і Смалявіцкім раёнах

*ПАСТАНОВА ЦК КП(б)Б і СНК БССР*

1. ЦК і СНК канстатуюць, што падрыхтоўка ва ўказаных раёнах вядзецца нездавальняюча, адсутнічае апэрацыйнае кіраўніцтва з боку раённых арганізацый, у прыватнасьці каляндарны плян падрыхтоўкі да сяўбы; у МТС пануе безгаспадарчасьць, калгасныя масы не мабілізаваны на падрыхтоўку да сяўбы і г. д.

2. ЦК і СНК лічаць агідным факты зьніжэньня пасеўных плянаў па Сеньненскім раёне—на 1400 га, па Аршанскім—зьніжэньне пасеваў збожжавых культур на 900 га, з іх пшаніцы на 200 га, па Быхаўскім раёне на—2143 га.

ЦК і СНК абвяшчаюць вымову: сакратаром Сеньненскага РК тав. Дашукевічу, Аршанскага—Чарнышову, старшыням РВК—Сябесевічу, Валасевічу; загадчыкам райза—Масьлянньнікову і Жылінскаму, суровую вымову загадчыку Быхаўскага райза—Кучараву, які зьнізіў плян пасеву збожжавых культур.

Паставіць на від сакратару Быхаўскага раёну тав. Канавалаву і старшыні РВК тав. Грынкевічу за адсутнасьць кантролю над разьвёрсткай пасеўных плянаў.

Прапанаваць указаным раёнам у аднадзённы тэрмін правесьці разьвёрстку пасеўных плянаў, згодна пляну НКЗБ.

Папярэдзіць сакратароў РК, старшынь РВК і загадчыкаў Райза ўсіх астатніх раёнаў, што ўсякія спробы парушыць плян, паданы НКЗ, у бок паменшэньня, перамяшчэньня па культурах і па сэктарох—будуць разглядацца як спробы зрыву веснавой сяўбы і віноўныя ў гэтым будуць прыцягвацца да суровай партыйнай адказнасьці, аж да выключэньня з партыі.

3. ЦК і СНК канстатуюць наяўнасьць злачыннай безгаспадарчасьці ў Барысаўскай МТС (жняяркі ляжаць усю зіму пад сьнегам), Сеньненскай МТС (інвэнтар і с. г. машыны засыпаны сьнегам), Смалявіцкай (новыя плугі не сабраны).

Такія-ж злачынныя адносіны да інвэнтару ёсьць і па раду калгасаў, якія абслугоўваюцца гэтымі МТС.

Абвясьціць вымову дырэктарам Барысаўскай МТС—тав. Холмічу, Сеньненскай—тав. Паборцаву, Смалявіцкай тав.—Ломскаму і абавязаць райкомы КП(б)Б дадаткова абсьледваць становішча гэтых МТС і пакараць самым жорсткім чынам канкрэтных вінаватых ў шкодніцкіх адносінах да с. г. інвэнтару.

4. ЦК і СНК адзначаюць, што па цэлым радзе калгасаў гэтых раёнаў, асабліва па Смалявіцкім, пануе злачынная безгаспадарчасьць (мерзьне і гіне бульба, прэе збожжа, злачынны догляд коняй, адсутнічае ўлік насеньня і фуражу і кантроль за іх расходваньнем і г. д.), якая зьяўляецца простым вынікам засьмечанасьці калгасаў кулацка-заможнымі элементамі, якія вядуць шкодніцкую работу. ЦК і СНК прапануюць Аршанскаму райкому і РВК неадкладна праверыць склад калгасу „Пралетары“, Барысаўскаму — калгас „Чыгуначнік“, Смалявіцкаму—калгасаў „Прагрэс“, „Орка“, „Зьвязда“, прыцягнуўшы вінаватых у падзяжы коняй, гніеньні бульбы, разбазарваньні фуражу і інш. да судовай адказнасьці на падставе закону аб ахове грамадзкай уласнасьці, ачысьціць гэтыя калгасы ад кулацка-заможных элемэнтаў і аб прынятых мерах ў дэкадны тэрмін паведаміць ЦК і СНК.

Зьвярнуць увагу ўсіх райкомаў, РВК, дырэктароў МТС, сельскіх ячэек і сельсаветаў на неабходнасьць узмацненьня барацьбы за ачыстку калгасаў ад кулакоў і інш. антысавецкіх элемэнтаў, якія пралезьлі ў калгасы і занялі там месцы рахункаводаў, кладаўшчыкоў, конюхаў і г. д.

5. ЦК і СНК прапануюць РК, РВК, і РАЙЗА неадкладна выпрацаваць каляндарны тэрмін асноўных работ у падрыхтоўцы да сяўбы: па-першае, сканчэньня ачысткі насеньня: па-другое, рамонт сельска-гаспадарчага інвэнтару, па-трэцяе, складаньне вытворчых пляноў у калгасах і арганізацыі сталых брыгад; па-чацьвертае, падрыхтоўкі калгасных кадраў; па-пятае, вывазу мінугнаеньня, гною і г. д.

ЦК і СНК лічаць недапушчальным такое становішча, калі пасеўныя пляны да гэтага часу яшчэ не абгаворваны ў калгасах і ў прыватнасьці з калгасным актывам і зноў падкрэсьлівае неабходнасьць прыцягненьня калгаснага актыву да практычнага правядзеньня ўказаных мерапрыемстваў.

Малейшае праяўленьне самацёку ў падрыхтоўцы да сяўбы выкарыстоўваецца клясавым ворагам для арганізацыі сабатажу. ЦК і СНК падкрэсьліваюць таму неабходнасьць штодзённага канкрэтнага кіраўніцтва падрыхтоўкай да сяўбы ў кожным саўгасе і калгасе.

# Аб ходзе падрыхтоўкі да веснавой сяўбы ў прыгарадных гаспадарках

## Пастанова ЦК КП(б)Б

1. Заслухаўшы даклады дырэктароў прыгарадных гаспадарак фабрык і заводаў („Сьцяг індустрыялізацыі“, Шоўкавай фабрыкі, „Гомсельмаш“, „Бярэзіна“, Бабруйскага дрэваапрацоўчага камбінату, „Дняпро-Рэчыца“ і т. д.) і садаклад камісіі ЦК і ЦКК, ЦК канстатуе выключна дрэннае становішча ходу падрыхтоўкі прыгарадных гаспадарак, якое ставіць пад яўную пагрозу зрыву сваечасовае і высокаякаснае, у адпаведнасьці з дырэктывамі партыі, правядзеньне сяўбы.

Асабліва пагражаючымі зьяўляюцца наступныя віды работ па падрыхтоўцы гаспадарак да сяўбы: вывазка гною

(22 проц.) засыпка, рамонт і праверка насенных фондаў, рамонт і падрыхтоўка парніковых рам (50 проц.), рамонт трактараў і сельска-гаспадарчых машын, падрыхтоўка конскай цягавай сілы і камплектаваньне рабочай сілы.

2. ЦК лічыць, што ўсё гэта зьяўляецца вынікам:

а) бязьдзейнасьці большасьці дырэктароў каапгасаў, праяўленьня папушчальнасьці з боку заводакіраўніцтваў, партыйных, прафэсыянальных і каапэрацыйных арганізацый большасьці прадпрыемстваў, якія не забясьпечылі сапраўдна бальшавіцкага апэрацыйнага кіраўніцтва ходам падрыхтоўкі да сяўбы ў сваіх прыгарадных гаспадарках, а займаліся пустой балбатнёй замест бальшавіцкай барацьбы за стварэньне ўласнай харчовай базы, за павышэньне ураджайнасьці, павышэньне таварнасьці прыгарадных гаспадарак.

б) недапушчальна слабага кіраўніцтва Белкаапсаюзу пытаньнем падрыхтоўкі да сяўбы, а таксама няўважлівых наплявацельскіх адносін да гэтай важнейшай справы прамысловых наркаматаў і трэстаў.

в) зусім недастатковай увагі з боку Райкомаў і Гаркомаў КП(б)Б і ў асаблівасьці Гарсаветаў і Гарпрафсаветаў да пытаньня падрыхтоўкі сяўбы ў прыгарадных гаспадарках,—большасьць гэтых арганізацый пытаньнем сяўбы амаль не займаліся.

3. Лічачы такое становішча зусім нецярпімым, ЦК абавязвае, пад асабістую адказнасьць дырэктароў каапгасаў, трохкутнікаў прадпрыемстваў, сельска-гаспадарчага кіраўніцтва Белкаапсаюзу, старшынь гарсаветаў, кіраўнікоў прамысловых наркаматаў і трэстаў, забясьпечыць правядзеньне ў жыцьцё наступных мерапрыемстваў:

а) поўнасьцю скончыць вывазку гною да 15-II;

б) да 10-III скончыць рамонт парніковых рам, прыняўшы безадкладныя меры да адшуканьня матар'ялаў для рамонту рам, матаў, у поўнай меры мабілізаваўшы ўнутраныя рэсурсы прадпрыемстваў;

в) дырэктарам каапгасаў, сельгаскіраўніцтву Белкаапсаюзу, пад адказнасьць тав. Шлейфэра, забясьпечыць сканчэньне рамонту трактараў да 15-III, а таксама якасную прыёмку і выпрабаваньне трактараў. Заводакіраўніцтвам аказаць садзейнасьць у рамонце трактараў і сельска-гаспадарчых машын прыгарадных гаспадарак на прадпрыемствах;

г) дырэктарам каапгасаў неадкладна разгарнуць самазагатоўкі гародных культур і забясьпечыць поўную засыпку і ачыстку насенных фондаў да 5-III. Папярэдзіць іх, што сяўба ў 1933 г. павінна быць праведзена выключна ачышчаным, пратручаным і правераным на ўсхожасьць насеньнем. Белкааплодагароднiне, пад адказнасьць тав. Зелічонка, выканаць заяўкі сельгаскіраўніцтва па загатоўцы насеньня гародніны, зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на забесьпячэньне насеньнем раньняй бульбы, цыбулі і часнаку;

д) дырэктарам каапгасаў сумесна з прафсаюзнымі арганізацыямі неадкладна арганізаваць сталыя вытворчыя брыгады ў каапгасах, рашуча ліквідаваўшы абязьлічку, рашуча ўзьняўшы працдысцыпліну і прадукцыйнасьць працы, праводзячы рашучую барацьбу з гультаямі, лятунамі і прагульшчыкамі. Да 10-III правесьці праверку ўсяго складу агратэхнічнага пэрсаналу і рабочых каапгасаў, рашуча ачысьціўшы каапгасы ад варожых і шкодных элемэнтаў. Наркампрацы разгледзець заяўкі БКС на ўкамплектаваньне прыгарадных гаспадарак агразоаработнікамі, вылучыўшы з ліку мабілізуемых 10 чалавек.

е) гарсаветам да 15-III канчаткова ўстанавіць плошчы зямель прыгарадным гаспадаркам для пасеву збожжавых і кармовых культур у рамках ім адведзеных зямель, забясьпечыўшы да вызначанага тэрміну правядзеньне ўсіх землеўпарадкоўчых работ у сувязі з уводзеньнем севазвароту. Сельгаскіраўніцтву Белкаапсаюзу даслаць да 10-III прыгарадным гаспадаркам тыпавыя севазвароты;

ж) Белкаапсаюзу сумесна з прамысловымі наркаматамі на працягу 5-ці дзён разглядзець і зацьвердзіць пляны фінансаваньня гаспадарак на капіталаўкладаньні і зваротныя сродкі, забясьпечыўшы своечасовы спуск асыгнаваньняў.

4. Сельгаскіраўніцтву Белкаапсаюза, гарсаветам, гарпрафсаветам у дэкадны тэрмін праверыць выкананьне прыгараднымі гаспадаркамі пастановы СНК і ЦК

УсеКП(б), аб падрыхтоўцы конскай цягавай сілы да пасеўнай кампаніі, прыняўшы адпаведныя меры, якія-б поўнасьцю забясьпечылі выкананьне гэтай пастановы. Камісіі выкананьня СНК праз дэкаду заслухаць даклады гарадоў: Менску, Віцебску і Гомелю аб выкананьні гэтага.

5. Улічваючы выключна слабую партыйна масавую работу ў каапгасах, даручыць Аргінстру і Агітмасу ЦК на працягу 5 дзён распрацаваць рад мерапрыемстваў па ўзмацненьню ў каапгасах партыйна-масавай работы.

6. Абавязаць рэдактара газэты „Рабочий“, а таксама рэдактароў гарадзкіх газэт забясьпечыць штодзённае асьвятленьне ходу падрыхтоўкі да веснавой сяўбы прыгарадных гаспадарак, арганізоўваючы сумесна з ЦКК РСІ і саўпрофам рэйды брыгад па праверцы фактычнага становішча ходу падрыхтоўкі і правядзеньня сяўбы ў прыгарадных гаспадарках.

7. Зацьвердзіць сьпіс упаўнаважаных ЦК і ЦСПСБ па падрыхтоўцы і правядзеньню веснавой сяўбы ў прыгарадных гаспадарках.

Даручыць Віцебскаму Гаркому КП(б)Б зьняць з працы дырэктара прыгараднай гаспадаркі фабрыкі „Сьцяг індустрыялізацыі“ Воранава за выключна дрэнную працу і допушчэньне момантаў безгаспадарчасьці, перадаўшы ў РайКК аб ім матар'ялы для прыцягненьня да партыйнай адказнасьці; адначасова прыцягнуць да партыйнай адказнасьці трохкутнік фабрыкі „Сьцяг індустрыялізацыі“ і ЗРК, якія не забясьпечылі неабходнага кіраўніцтва гэтай прыгараднай гаспадаркай. Даручыць таксама Барысаўскаму РК КП(б)Б зьняць з працы Копалава, былшага дырэктара Стара-Барысаўскай фэрмы, зараз дырэктара гаспадаркі фабрыкі „Бярэзіна“, за допушчэньне ім безгаспадарчасьці і злоўжываньняў, перадаўшы матар'ял аб ім у РайКК для прыцягненьня да стражэйшай партыйнай адказнасьці.

ЦК КП(б)Б зварочвае ўвагу ГК, РК КП(б)Б і асабліва гарсаветаў, каапэрацыйных і профарганізацый, трохкутнікаў прадпрыемстваў і дырэктароў каапгасаў, а таксама ўпаўнаважаных ЦК і ЦСПСБ на неабходнасьць самай рашучай бальшавіцкай барацьбы за баявое правядзеньне падрыхтоўкі і самай сяўбы, за абавязковае выкананьне дырэктыў партыі аб ураджайнасьці ў прыгарадных гаспадарках, і папярэджвае, што па выніках правядзеньня падрыхтоўкі і самой сяўбы ЦК будзе расцэньваць баяздольнасьць арганізацый і паасобных камуністаў і ўменьне змагацца за выкананьне важнейшых дырэктыў партыі аб стварэньні ўласнай харчовай базы і паляпшэньні рабочага снабжэньня.

---

# Пра арганізацыю і правядзеньне мерапрыемстваў па палепшаньні і выпрабаваньні якасьці насеньня

## Пастанова ЦК КП(б)Б і СНК БССР ад 26 лютага 1933 г.

ЦК КП(б)Б і СНК БССР канстатуюць, што работа па стварэньню насенных і страхавых фондаў праводзіцца адарвана ад мерапрыемстваў па палепшаньню пасеўнага матар'ялу. На мясцох недаацэньваецца значэньне якасьці насеньня, як важнейшага фактару павышэньня ўраджайнасьці і важнейшай умовы выкананьня пасеву з захаваньнем нармальнай гушчыні высеву яравых культур. Ня гледзячы на неаднаразовыя пастановы ЦК і СНК БССР, да гэтага часу не разгорнута работа па зернаачышчэньню: па дадзеных 24-х раёнаў ачышчана ўсяго 3,9 проц., па астатніх раёнах ніякіх зьвестак няма, засталіся нерэалізаванымі 1085 машын, не праводзіцца падрыхтоўка да пратручваньня, зусім не вядзецца работа па выпрабаваньні ўсхожасьці, чыстаты і гаспадарчай годнасьці насеньня.

Усе гэтыя факты гавораць аб тым, што на мясцох ня ізжыты славесна-дэкляратыўныя адносіны да павышэньня ўраджайнасьці, як важнейшай задачы партыі на даным этапе.

ЦК і СНК пастанаўляюць:

1. Абавязаць НКЗем, Упаўнаважанага НКСаўгасаў, РК КП(б)Б і РВК у двухдзённы тэрмін дабіцца карэннага пералому ў справе зернаачышчэньня; забясьпечыць сканчэньне гэтай работы не пазьней 5 сакавіка 1933 г. Для гэтага неадкладна рэалізаваць сартыравальныя машыны, якія знаходзяцца на складах, адрамантаваць усе машыны, якія да гэтага часу яшчэ не адрамантаваны, расставіць зернаачышчальныя машыны па раёну і арганізаваць іх работу такім чынам, каб да паказанага тэрміну было адсартыравана насеньне ня толькі саўгасаў і калгасаў, але і аднаасобны гаспадарак. Забясьпечыць нагрузку на машыны і суадносіны па культурах, згодна пляну Наркамзема.

Пэрсанальную адказнасьць за ход ачысткі і выпрабаваньня насеньня ўскласьці на дырэктароў саўгасных сыстэм, саўгасаў і МТС, загадчыкаў райза і старшынь калгасаў.

2. Прызнаць неабходным правядзеньне выпрабаваньня ўсхожасьці, чыстаты і гаспадарчай годнасьці насеньня ва ўсіх саўгасах і калгасах.

Прапанаваць НКЗему, Упаўнаважанаму НКСаўгасаў, РК КП(б)Б і РВК арганізаваць гэта выпрабаваньне ў кожным саўгасе і якой якасьці насеньне маюць саўгасы і калгасы да пасеўнай кампаніі.

Наркамзему забясьпечыць саўгасы і калгасы ўказаньнямі аб тым, як найпрасьцейшым чынам правесьці выпрабаваньне насеньня на месцы і ўстанавіць яго якасьць, выдаўшы спэцыяльную інструкцыю, разьлічаную на шырокае карыстаньне ёю рабочымі саўгасаў, калгасьнікамі і аднаасобнікамі, апублікаваўшы яе ў друку.

3. Для вытварэньня больш складанага аналізу насеньня (чыстата, усхожасьць, вызначэньне сажы, павітухі і г. д.) абавязаць трактарацэнтры і заг. райза арганізаваць пры кожнай МТС, а ў раёнах, не абслугоўваемых МТС, пры райза спэцыяльныя праверачныя пункты. Кіраўніцтва гэтымі пунктамі ўскласьці на Дзярж. Насен. Інспэкцыю.

4. Даручыць НКЗему і НКСаўгасаў устанавіць дыфэрэнцыраваныя нормы высеву з улікам рознай гаспадарчай

годнасьці насеньня з тым, каб забясьпечыць высеў нармальнай гушчыны і максымальна с'эканоміць пасеўны матар'ял.

5. Абавязаць НКЗем і НКСаўгасаў забясьпечыць сухое пратручваньне пшаніцы на працягу лютага—сакавіка месяца і неадкладна разгарнуць падрыхтоўчую работу для мокрага пратручваньня іншага насеньня—завоз апаратуры і сродкаў атруты, падрыхтоўка адпаведных кадраў, выданьне інструкцый, плякатаў і г. д.

Устанавіць канечны тэрмін для завозу апаратуры і сродкаў пратручваньня ў раёны да 15 сакавіка з тым, каб разьмеркаваньне іх і дастаўка ў сельсаветы, калгасы, саўгасы былі вытвараны не пазьней 1|IV-33 г.

6. Вакол пытаньня палепшаньня якасьці насеньня павінна быць мабілізавана актыўнасьць усіх рабочых саўгасаў, калгасьнікаў і аднаасобнікаў.

Прапанаваць РК КП(б)Б і РВК разгарнуць масавую растлумачальную работу аб важнасьці і неабходнасьці палепшаньня насеньня.

Абавязаць рэдактароў газэт „Зьвязда", „Сав. Беларусь", „Калгасьнік Беларусі" і ўсіх раённых газэт у бліжэйшых нумарох зьмясьціць шэраг спэцыяльных артыкулаў па падрыхтоўцы насеньня да сяўбы, а таксама разгарнуць асьвятленьне ў друку выкананьня мерапрыемстваў, вызначаных гэтай пастановай.

7. Даручыць НКЗему арганізаваць улік вынікаў работы па палепшаньні і выпрабаваньні насеньня.

Абавязаць РК КП(б)Б і РВК забясьпечыць сваечасовае прадстаўленьне гэтых зьвестак з раёнаў НКЗему.

# Аб ходзе завозу кармоў для саўгасаў БССР

## Пастанова Прэзыдыуму ЦКК КП(б)Б і Калегіі НК РСІ БССР ад 17/II-33 г.

Заслухаўшы паведамленьне т. Сьмірнова, т. Сьцяпанова. т. Казака і т. Жука аб прынятых імі мерах па забясьпячэньню саўгасаў БССР адпаведнымі кармамі, лічыць устаноўленым, што:

Кіраўніцтва Уп. НКСаўгасаў БССР і тав. Сьмірноў зусім не займаліся справай арганізацыі атрыманьня па цэнтралізаваным нарадам адпушчаных для саўгасаў БССР кармоў, ня было штодзённага апэрацыйнага кіраўніцтва і кантролю за ходам завозу гэтых кармоў па прызначэньні, спадзяючыся выключна на дырэктароў саўгастрэстаў—дапусьціла поўны самацёк у гэтай справе, за што т. Сьмірнову—паставіць на від.

2. Дырэктарам Менжывёлсаўгастрэсту т. Сьцяпановым ня вызначан сталы адказны працаўнік па ажыцьцяўленьні штодзённага кантролю за ходам і своечасовай адгрузкай вызначаных кармоў па нарадам, у выніку чаго на 15|II г. г. з вызначаных па цэнтралізаваным нарадам завезена ў саўгасы, аб'яднаемых трэстам 48 тон, што складсе 11 проц. завозу што т. Сьцяпанаву—аярясьцІць вымову.

3. Дырэктарам Віц. Жывёласаўгастрэсту т. Казаком пасланыя работнікі на Украіну за атрыманьнем кармоў па цэнтралізаваным нарадам—зусім ня былі праінструктаваны—ня былі здольны выконваць ускладзеных на іх даручэньняў (на працягу больш 20 дзён прабываньня на Украіне—адгружана толькі 13 тон атрубей), за што т. Казаку—абвясьціць вымову.

4. Дырэктарам Менсьвінсаўгастрэстам т. Жукавым адпушчаныя па цэнтралізаваным нарадам кармы Мен. Канторай Саюзкрупа 31|I-33 г. у колькасьці 179 тон—не атрыманы, ня гледзячы на неаднаразовыя паведамленьні Саюзкрупы, за што т. Жукаву—абвясьціць суровую вымову.

5. Прыняць да ведама паведамленьне т. Сьмірнова, што ім зараз прыняты ўсе меры да поўнай рэалізацыі нарадаў НКСаўгасаў СССР па завозу кармоў па цэнтралізаваным нарадам у саўгасы БССР. Папярэдзіць т. Сьмірнова і дырэктароў трэстаў, што калі імі ня будзе поўнасьцю завезены кармы па цэнтралізаваным нарадам у вызначаны СПА тэрмін, яны будуць прыцягнуты да больш суровага партыйнага спагнаньня.

Гэтую пастанову апублікаваць ў друку.

Старшыня ЦКК КП(б)Б—
Нарком РСІ БССР І. Лычоў.

# Адстаючыя раёны па засыпцы насенфондаў

(па становішчу на 4|III-33 г.)

### Па збожжу:

**Ільна-малочныя раёны:**

| | | |
|---|---|---|
| Сіроцінскі | 78,6 | проц. вык. |
| Гарадоцкі | 91,5 | „ „ |
| Шклоўскі | 91,7 | „ „ |
| Чашніцкі | 93,5 | „ „ |
| Бешанковіцкі | 93,9 | „ „ |
| Полацкі | 94,8 | „ „ |
| Лёзьнянскі | 95,8 | „ „ |

**Жывёлагадоўча-бульбяныя раёны:**

| | | |
|---|---|---|
| Веткаўскі | 86,5 | проц. вык. |
| Уваравіцкі | 92,8 | „ „ |
| Бярэзінскі | 92,9 | „ „ |
| Прапойскі | 93,6 | „ „ |
| Быхаўскі | 93,6 | „ „ |
| Буда-Кашалёўскі | 93,9 | „ „ |
| Дзяржынскі | 95,6 | „ „ |
| Чэрвенскі | 95,6 | „ „ |

**Жывёлагадоўча-канапляводныя раёны:**

| | | |
|---|---|---|
| Камарынскі | 89,7 | проц. вык. |
| Любаньскі | 91,2 | „ „ |
| Пятрыкоўскі | 91,6 | „ „ |

**Садова-гародня-малочныя раёны:**

| | | |
|---|---|---|
| Магілеўскі | 94,3 | проц. вык. |
| Гомельскі | 96,1 | „ „ |

### Па ільнанасеньню.

**Ільна-малочныя раёны:**

| | | |
|---|---|---|
| Расонскі | 22,8 | проц. вык. |
| Полацкі | 28,7 | „ „ |
| Асьвейскі | 32,9 | „ „ |
| Сіроцінскі | 34,0 | „ „ |
| Дрысенскі | 41,2 | „ „ |
| Лепельскі | 46,0 | „ „ |
| Сененскі | 49,2 | „ „ |
| Талочынскі | 53,1 | „ „ |
| Шклоўскі | 55,0 | „ „ |
| Бешанковіцкі | 58,8 | „ „ |
| Крупскі | 59,2 | „ „ |
| Гарадоцкі | 59,8 | „ „ |
| Бялыніцкі | 60,9 | „ „ |
| Горацкі | 71,8 | „ „ |
| Мсьціслаўскі | 75,5 | „ „ |
| Суражскі | 78,9 | „ „ |
| Дубровенскі | 84,6 | „ „ |
| Вушацкі | 85,1 | „ „ |
| Чашніцкі | 87,0 | „ „ |
| Чавускі | 88,0 | „ „ |

**Жывёлагадоўча-бульбяныя раёны:**

| | | |
|---|---|---|
| Чэрвеньскі | 58,9 | проц. вык. |
| Заслаўскі | 59,5 | „ „ |
| Бягомльскі | 65,0 | „ „ |
| Лагойскі | 66,0 | „ „ |
| Плешчаніцкі | 68,8 | „ „ |
| Смалявіцкі | 75,5 | „ „ |
| Клімавіцкі | 77,1 | „ „ |
| Вузьдзенскі | 78,9 | „ „ |
| Дзяржынскі | 82,2 | „ „ |
| СтарадарOскі | 83,0 | „ „ |
| Бярэзінскі | 83,4 | „ „ |
| Пухавіцкі | 85,1 | „ „ |
| Асіпавіцкі | 86,9 | „ „ |
| Чырвона-Слабодзкі | 90,6 | „ „ |
| Крычаўскі | 91,9 | „ „ |
| Клічаўскі | 93,2 | „ „ |
| Веткаўскі | 94,4 | „ „ |
| Быхаўскі | 95,5 | „ „ |
| Кармянскі | 95,6 | „ „ |
| Слуцкі | 95,7 | „ „ |
| Прапойскі | 95,9 | „ „ |

**Жывёлагадоўча-канапляводныя раёны:**

| | | |
|---|---|---|
| Ельскі | 78,9 | проц. вык. |
| Глускі | 83,2 | „ „ |
| Нараўлянскі | 87,8 | „ „ |
| Жыткавіцкі | 88,4 | „ „ |
| Пятрыкоўскі | 88,9 | „ „ |

**Садова-гародня-малочныя раёны:**

| | | |
|---|---|---|
| Віцебскі | 69,3 | проц. вык. |
| Аршанскі | 72,0 | „ „ |
| Бабруйскі | 86,8 | „ „ |

### Па бульбе.

**Ільна-малочныя раёны:**

| | | |
|---|---|---|
| Сіроцінскі | 52,2 | проц. вык. |
| Бешанковіцкі | 74,9 | „ „ |
| Чашніцкі | 78,0 | „ „ |
| Гарадоцкі | 78,8 | „ „ |
| Расонскі | 79,8 | „ „ |
| Горацкі | 87,3 | „ „ |
| Сеньненскі | 87,4 | „ „ |
| Дубровенскі | 87,6 | „ „ |
| Вушацкі | 88,0 | „ „ |
| Бялыніцкі | 92,3 | „ „ |
| Полацкі | 93,4 | „ „ |
| Суражскі | 93,6 | „ „ |

**Жывёлагадоўча-бульбяныя раёны:**

| | | | |
|---|---|---|---|
| Чырвонаслабодзкі | 80,7 | проц. | вык. |
| Клічаўскі . . . | 83,0 | „ | „ |
| Старадароскі . . | 83,1 | „ | „ |
| Барысаўскі . . | 85,2 | „ | „ |
| Кармянскі . . | 85,8 | „ | „ |
| Веткаўскі . . | 87,5 | „ | „ |
| Прапойскі . . | 88,3 | „ | „ |
| Чырвонапольскі . | 88,5 | „ | „ |
| Бярэзінскі . . | 88,9 | „ | „ |
| Асіповіцкі . . | 89,2 | „ | „ |
| Чэрвенскі . . | 91,1 | „ | „ |
| Рагачоўскі . . | 91,2 | „ | „ |
| Быхаўскі . . . | 91,8 | „ | „ |
| Дзяржынскі . . | 91,9 | „ | „ |
| Слуцкі . . . | 91,9 | „ | „ |
| Вузьдзенскі . . | 92,2 | „ | „ |
| Жлобінскі . . | 92,0 | „ | „ |
| Чачэрскі . . . | 92,3 | проц. | вык. |
| Уваравіцкі . . | 93,4 | „ | „ |
| Заслаўскі . . . | 94,3 | „ | „ |

**Жывёлагадоўча-канапляводныя раёны:**

| | | | |
|---|---|---|---|
| Лоеўскі . . . | 74,9 | проц. | вык. |
| Нараўлянскі . . | 76,5 | „ | „ |
| Ельскі . . . | 79,3 | „ | „ |
| Тураўскі . . . | 83,3 | „ | „ |
| Петрыкаўскі . . | 85,3 | „ | „ |
| Хойніцкі . . . | 88,7 | „ | „ |
| Мазырскі . . . | 89,4 | „ | „ |
| Рэчыцкі . . . | 89,5 | „ | „ |
| Жыткавіцкі . . | 90,9 | „ | „ |
| Парыцкі . . . | 91,5 | „ | „ |
| Старобінскі . . | 92,3 | „ | „ |
| Лельчыцкі . . | 93,7 | „ | „ |
| Камарынскі . . | 94,1 | „ | „ |



# МТС, якія зрываюць плян рамонту трактараў.

## Па Ільнотрактарацэнтру

(па становішчу на 6|III-33 г.)

| Назва МТС | Плян рамонту | Адраманта-вана | Проц. выкан. |
|---|---|---|---|
| Бешанковіцкая . . | 29 | 2 | 6,9 |
| Суражская . . . . | 26 | 2 | 7,7 |
| Крупская . . . . . | 11 | 1 | 9,1 |
| Гарадоцкая . . . . | 29 | 4 | 13,8 |
| Чауская . . . . . | 11 | 3 | 27,3 |
| Шклоўская . . . . | 40 | 9 | 22,5 |
| Горацкая . . . . . | 38 | 8 | 21,1 |
| Мсьціслаўская . . | 39 | 9 | 23,1 |
| Сіроцінская . . . | 30 | 12 | 40,0 |
| Бялыніцкая . . . . | 27 | 11 | 40,7 |
| Дубровенская . . . | 40 | 18 | 45,0 |

## Па Гародніна-бульбяному трактарацэнтру

(па становішчу на 6|III-33 г.)

| Назва МТС | Плян рамонту | Адраманта-вана | Проц. выкан. |
|---|---|---|---|
| Барысаўская . . . | 25 | 1 | 4,0 |
| Магілеўская . . . | 24 | 3 | 12,5 |
| Жлобінская . . . . | 19 | 2 | 10,5 |
| Гомельская . . . . | 16 | 5 | 31,2 |
| Рогачэўская . . . | 28 | 10 | 35,7 |
| Рэчыцкая . . . . . | 29 | 11 | 37,9 |
| Смалявіцкая . . . | 40 | 16 | 40,0 |
| Путчынская . . . | 17 | 7 | 41,1 |

## Па Збожжавому трактарацэнтру

(па становішчу на 6|III-33 г.)

| Назва МТС | Плян рамонту | Адраманта-вана | Проц. выкан. |
|---|---|---|---|
| Хойніцкая . . . . | 26 | 5 | 19,4 |
| Пухавіцкая . . . . | 24 | 6 | 30,0 |
| Тураўская . . . . | 10 | 4 | 40,0 |
| Бягомльская . . . | 20 | 8 | 40,0 |
| Вузьдзенская . . . | 20 | 9 | 45,0 |

# ЗВОДКА

## аб рамонце трактараў і матораў у МТМ

(па становішчу на 15|II-33 г.)

| Назва МТМ | Трактары | | | Маторы | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Плян рамонту | Адраман-тавана | Проц. выкан. | Плян рамонту | Адраман-тавана | Проц. выкан. |
| **Па Ільнатрактарацэнтру** | | | | | | |
| Лепельская . . . . . . . . . | 41 | 35 | 85,4 | 77 | 48 | 62,3 |
| Гарадоцкая . . . . . . . . . | 29 | 5 | 17,2 | 144 | 52 | 36,0 |
| Горацкая . . . . . . . . . . | 38 | 16 | 42,1 | 122 | 47 | 38,5 |
| **Па збожжатрактарацэнтру** | | | | | | |
| Слуцкая . . . . . . . . . . | 50 | 37 | 74,0 | 48 | 48 | 100*) |
| **Па гародніна-бульбяному трактарацэнтру** | | | | | | |
| Аршанская . . . . . . . . . | 21 | 15 | 71,4 | 67 | 12 | 17,9 |
| Гомельская . . . . . . . . . | 16 | 5 | 31,2 | 68 | 50 | 73,5 |
| Дзяржынская . . . . . . . . | 56 | 30 | 53,5 | 52 | 12 | 23,0 |
| Клімавіцкая . . . . . . . . | 73 | 35 | 47,0 | 51 | — | — |
| Рагачоўская . . . . . . . . . | 66 | 52 | 78,7 | 62 | 14 | 22,5 |

*) Плян рамонту матораў удакладнен Упаўнаркмсаўгасад 4/III-33 г.—замест 61 матора па ранейшаму пляну, сучасны плян—48.

## Па рамонтным майстэрням сыстэмы Упаўнаркамсаўгасаў

| Назва МТМ | Трактары | | | Матеры | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Плян рамонту | Адраман-тавана | Проц. выкан. | Плян рамонту | Адраман-тавана | Проц. выкан. |
| Увaравіцкая | 39 | 36 | 92,3 | — | — | — |
| Чэрыкаўская | 47 | 18 | 38,3 | — | — | — |
| Менская | 158 | 99 | 62,7 | — | — | — |
| „Перамога Сацыялізму“ (Хойнікі) | 32 | 15 | 46,9 | — | — | — |
| Несяцкая (Клічаў) | 59 | 24 | 40,7 | — | — | — |
| Камаровіцкая (Пятрыкоў) | 10 | 2 | 20,0 | — | — | — |
| Бяноньская (Полацк) | 12 | 1 | 8,3 | — | — | — |

## Рамонт трактараў па сыстэме Наркамцяжпрому

(па становішчу на 6|III-33 г.)

| Назва прадпрыемства | Плян | Адрамант. | Проц. вык. |
|---|---|---|---|
| 1. Завод імя Варашылава | 32 | 0 | 0 |
| 2. „Камунар“ | 25 | 0 | 0 |
| 3. Гомсельмаш | 50 | 38 | 76 |
| 4. „Пралетары“ | 25 | 20 | 80 |
| 5. „Рухавік Рэвалюцыі“ | 50 | 37 | 74 |
| 6. „Чырвоны Барацьбіт“ | 124 | 32 | 26 |

# ЗВОДКА

## выкананьня заданьняў па вырабу запчастак па заводам Белмэталятрэсту

(па становішчу на 5|III-1933 г.)

| Назва дэталяў | Разам па ўсім заводам | | |
|---|---|---|---|
| | Цэнтр. задан. | Выкананьне з пачатку | |
| | | Абсал. | % |
| Поршней камплектн. ФП | 1566 | 1496 | 95,5 |
| „ „ інтэр. 22\|36 | 100 | — | — |
| „ „ ХТЗ | 564 | 548 | 97 |
| Пальца паршн. ФП | 2400 | — | — |
| „ „ інтэр. 10\|20 | 210 | — | — |
| „ „ „ 22\|36 | 100 | 1360 | 35 |
| „ „ ХТЗ | 1130 | — | — |
| „ „ „Манарх“ | 50 | 50 | 100 |
| „ гусенічн. „ | 800 | — | — |

| Назва дэталяў | Разам па ўсім заводам | | |
| --- | --- | --- | --- |
| | Цэнтр. задан. | Выкананьне з пачатку | |
| | | Абсал. | % |
| Кольца парш. ФП | 5000 | 5000 | 100 |
| „ „ ХТЗ | 5780 | 5000 | 86 |
| „ „ „Манарх“ | 85 | — | — |
| „ смазачн. „ | 62 | — | — |
| Гільзы цыліндров. ФП | 640 | 140 | 22 |
| Шатун. балт. інтэр. 22\|36 | 200 | — | — |
| „ „ ФП | 5450 | — | — |
| „ „ ХТЗ | 1970 | 7900 | 106 |
| „ „ Клетрак | 24 | — | — |
| „ „ „Манарх“ | 70 | — | — |
| Сцяжныя балты ФП | 760 | 600 | 79 |
| Каробак | 200 | 200 | 100 |
| Укладышы к шатуну ХТЗ | 560 | 571 | 102 |
| Утулак к шатун. галов. ХТЗ | 2770 | 1740 | 98 |
| „ „ „ інтэр. 22\|36 | 100 | — | — |
| Утулак ЦАПФ ФП | 400 | 408 | 102 |
| Дыскі муфт сцапленьня ХТЗ | 160 | 110 | 70 |
| Утулак напраўляюч. ХТЗ | 200 | — | — |

## Рамонт трактараў і вытворчасьць запасных частак.



## Падрыхтоўка да веснавой сяўбы.



## Аб насеньні.



## Аб кармах.



Друк. Кір. Спраў СНК і ЭКАСА БССР Зак. № 225—1000 Галоўлітбел № В 1787.

